# Бацькаўшчына

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14
**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка [illegible] поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND" |
|---|---|---|

№ 43-44 (479-80) — Нядзеля, 29 лістапада 1959 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13


# Камуністычны наступ на Поўдзень

Ня маючы доступу да тайных палітычных матар'ялаў і ня маючы магчымасьці расчытаць, што думаюць і плянуюць галоўныя кіраўнікі абедзьвюх палітычных і ідэялягічных сыстэмаў сьвету, зразумела, нельга з поўнай дакладнасьцяй абазначыць, у якім кірунку пойдзе ці мае пайсьці далейшы ход палітычных падзеяў. Таму можна адно рабіць гіпатэтычныя прыпушчэньні й выцягваць зь іх высновы толькі на падставе выпадкаў, якіх зьяўляемся навочнымі сьветкамі. А не падлягае найменшаму сумлеву, што й гэтыя даступныя нам факты паказваюць, што ў апошнім часе, як можа яшчэ ніколі перад гэтым, у сьвеце, і то ў глябальным маштабе, пачалі насьпяваць выпадкі, якія, прынамся на некаторы час, могуць даць іншы ход далейшаму разьвіцьцю міжнародных падзеяў.

У сувязі з апошнімі выпадкамі сярод палітычнай апініі Захаду жыва дыскутуюцца дзьве важныя праблемы. Папершае, якая была запраўдная мэта падарожжа Хрушчова ў Задзіночаныя Штаты і які запраўдны сэнс запрапанаванага ім суіснаваньня; падругое, ці запраўды заіснаваў палітычны канфлікт, а прынамся непаразуменьне між Савецкім Саюзам і чырвоным Кітаем і які ягоны характар. На гэтым фоне і ў сувязі з гэтым разглядаецца пытаньне кітайска-індыйскага канфлікту. На абодвы гэтыя пытаньні й пастараемся тут знайсьці прынамся прыблізны адказ.

Не падлягае найменшаму сумлеву, што Савецкі Саюз патрабуе часовай — паўтараем: часовай — перадышкі ў халоднай вайне з Захадам, а тым больш баіцца, як агню, гарачай вайны. Вялікія нутраныя цяжкасьці ў Савецкім Саюзе, галоўна ў наладжаньні схаатызаванага эканамічнага жыцьця, як і правядзеньня задуманага ў гігантычных памерах сямігадовага пляну вымагаюць часовага супакою й не дазваляюць на ніякія авантуры звонку навет у сфэры халоднай вайны. З гэтым на Захадзе, здаецца, згодныя ўсе.

Нажаль, ня ўсе згодныя з тым, што гэтыя каэгзыстэнцыйныя рэцэпты зьяўляюцца адно толькі часовым, зусім ня прынцыповым, а тактычным ходам. Хрушчоўскія ўсьмешкі як у Амэрыцы, гэтак і ў ягонай прамове на сэсіі Вярхоўнага Савету 31 кастрычніка аб вечным міры, прыязьні й супрацоўніцтве між абодвымі сьветамі, аб згодзе на поўнае раззбраеньне, аб няўжываньні сілы ў разьвязваньні спрэчных міжнародных праблемаў для заходніх супэраптымістых і капітулянтаў былі дастатковымі, каб паверыць у грунтоўную зьмену савецкага палітычнага курсу.

Тымчасам ня трэба глыбокага палітычнага розуму, каб пераканацца, што прапанаваная Хрушчовам каэгзыстэнцыя ёсьць аднабокая. Як ведаем, ён прыехаў у Амэрыку ня толькі з прыгожымі пажаданьнямі, якія маглі-б захапіць Амэрыканцаў, але й зь нядвузначнымі пагрозамі, каб іх запалохаць. Ужо дэманстрацыйнае запушчэньне першае савецкае ракеты на месяц якраз напярэдадні свайго прыбыцьця ў Вашынгтон было задуманае, каб паказаць перавагу Савецкага Саюзу над Амэрыкай у галіне касьмічных ракетаў і зрабіць Амэрыканцаў мякчэйшымі ў гутарках зь імі. Потым самаўпэўненыя заявы Хрушчова, што Савецкі Саюз хутка перагоніць Амэрыку ў кажнай галіне жыцьця ды што ўнукі сяньняшніх Амэрыканцаў будуць камуністымі, мелі на мэце выклікаць страх, што няма чаго й думаць аб супраціўленьні перад савецкімі патрабаваньнямі.

Шлях да запраўднай каэгзыстэнцыі мог-бы весьці толькі да ўзаемнага кампрамісу й уступак у пытаньнях, якія такую каэгзыстэнцыю дагэтуль выключалі. Тымчасам Хрушчоў, жадаючы ад Амэрыкі многага, сам цьвёрда застаўся пры сваіх пазыцыях.

Усё гэта сьветчыць, што Хрушчоўскае разуменьне каэгзыстэнцыі з Захадам і шуканьне перамір'я ў халоднай вайне мае вылучна тактычны характар. Але, відаць, Крэмль уважае, што даволі й гэтага, каб мець сабе супакой на Заходзе дзеля разьвязаньня свайго нутранога крызысу. Дастаткова й дзеля таго, каб псыхалягічна аслабіць вольныя краіны заходняга сьвету ды выклікаць беспярапынныя разыходжаньні сярод заходніх саюзьнікаў.

З гэтым пытаньнем, якое мы вышэй разгледзілі, на нашую думку, беспасярэдна вяжыцца й пытаньне другое: апошнія ўзаемадачыненьні між Савецкім Саюзам і чырвоным Кітаем. Многія на Захадзе ўважаюць, што ў сувязі з шуканьнем зьбліжэньня Савецкага Саюзу з Захадам наступілі паважныя й глыбокія разыходжаньні між Масквой і Пэкінам і што акупацыя Тыбэту, афэнзыва супраць Індыі ды камуністычны наступ на Ляос, у найменш выгадным для Масквы часе, якраз і былі пратэстам супраць каэгзыстэнцыйных намераў Савецкага Саюзу на Захадзе ды спробай паўстрымаць «мірныя» савецкія ходы на Захадзе.

Такая інтэрпрэтацыя фактаў, на нашую думку, няправільная. Паміж савецкім і кітайскім камунізмам могуць быць разыходжаньні адно толькі тактычныя, а не палітычныя, якія базуюцца на ідэялягічных асновах, а як ведама, камуністычная ідэялёгія адна й адзіная — запанаваньне над цэлым сьветам. Таму ня гледзячы на афіцыйна выказаныя Масквой незадаваленьні з прычыны ажыўленьня кітайскай экспансіі на поўдзень, гэтая акцыя кітайскіх камуністых у Маскве апрабуецца й зьяўляецца ўзгодненай. Тут, на нашую думку, ня бунт Пэкіну супраць эўрапэйскай палітыкі Масквы, а толькі замаскаваная зьмена фронту, перанясеньне яго з Захаду на Далёка-Паўдзённы Ўсход.

Многія на Захадзе ўважаюць, што кітайская афэнзыва ў кірунку паўдня зьяўляецца выкліканай нутранымі эканамічнымі цяжкасьцямі ў Кітаі, што быццам кітайскія камуністыя намагаюцца гэтым прытупіць незадаваленьне свайго жыхарства й ськіраваць ягоную ўвагу на іншыя справы. Такое абгрунтаваньне можа быць правільным толькі часткова. Тут ходзіць пра штосьці іншае й больш паважнейшае, а некаторая разьвязка гэтага пытаньня можа быць выцягнутая з падзеяў у Тыбэце й Індыі.

Цяжка сабе ўявіць, каб пустынны, бедны й слаба заселены Тыбэт сам па сабе прадстаўляў нейкую вартасьць для кітайскага гіганта. Акупацыя гэтае краіны была Кітайцам патрэбная ня дзеля павялічэньня сваёй і так вялізарнай тэрыторыі, але па тое, каб збудаваць сабе мост дзеля далейшага пранікаsuccessful на поўдзень. Хутка пасьля падпарадкаваньня Тыбэту гэта й выявілася. Бо якраз з тэрыторыі Тыбэту й пачалі пранікаць кітайскія вайсковыя аддзелы ў правінцыі паўночнае Індыі, дзе нядаўна дайшло да некалькіх збройных крывавых сутыкаў між кітайскімі й індыйскімі войскамі.

Трэба не забывацца, што дасюлешняя пазыцыя Індыі як для кітайскага, гэтак і савецкага камунізму была вельмі выгадная. Гэтая вялізарная краіна, другая па колькасьці жыхарства ў сьвеце, сваім прыхільным да камуністычных краінаў нэўтралізмам прыносіла камуністым вялікія карысьці ў камуністычнай пэнэтрацыі ўва ўсіх іншых паўдзённа-ўсходніх азіяцкіх краінах, гэтак сама тварыла для іх заўсёды моцнае апорышча й на міжнародным форуме. Дык дзеля пустыннага Тыбэту й некалькіх паўночна-індыйскіх правінцыяў ані Саветам, ані чырвонаму Кітаю не аплочвалася траціць сваіх уплываў ані ў Індыі, ані ў іншых нэўтральных краінах Паўдзённа-Ўсходняй Азіі.

Гэта ўсё паказвае, што мэтай чырвонага Кітаю ёсьць камуністычная экспансія на ўвесь азіяцкі Поўдзень і што гэтая мэта ўзгодненая з Масквой.

**Язэп Каранеўскі**

# *Сымболіка Слуцкага Паўстаньня*

Гэтымі днямі прыпадаюць 39 ўгодкі Слуцкага паўстаньня. Шмат хто ўважае, што гэтую падзею было-б больш правільна называць абароннай вайной вайсковых аддзелаў Беларускай Народнай Рэспублікі супраць наступаўшых бальшавіцкіх арміяў.

Пад якім канчальным назовам гэтая падзея ўвойдзе ў гісторыю — вырашыць сама гісторыя. У гэтай падзеі важны ня ейны назоў, а ейны зьмест. Мала таго, зьмест гэтай падзеі, ейная мэтанакіраванасьць настолькі ясныя й азначаныя, што поўнасьцяй запярэчыць іх пакуль-што не адважваюцца навет ейныя сьмяротныя ворагі — бальшавікі. Нясустраканыя ў гісторыі майстры хвальшу й ілжы, яны пакуль-што намагаюцца зьменшыць ідэйную вартасьць і значэньне слуцкіх падзеяў, але не адважваюцца аспрэчваць самога факту. Для падмацаваньня свайго хвальшу, яны прыцягваюць у сьветкі вымучаных у канцэнтрацыйных лягерох, стэрарызаваных, часта зломаных фізычна й духова, сваіх ахвяраў. Але гэтыя дзікія мэтады, дзікай, нялюдзкай сыстэмы, яшчэ раз падмацоўваюць нашае перакананьне ў тым, што ахвярнасьць Слуцкіх паўстанцаў была выяўленая ў адпаведны мамэнт, для справядлівай справы і супраць запраўднай загрозы чалавецтву.

За 39 год, якія дзеляць нас ад Слуцкага паўстаньня, на аўтар ажыцьцяўленьня розных догмаў і амбіцыяў было, і дабраахвотна й пад прымусам, выліта столькі людзкой крыві, зложана столькі людзкіх цярпеньняў і трагедыяў. І ў сваёй бальшыні ўсё выявілася дарэмным!

Людзей гналі складаць галовы на франтох, а сьвет сяньня йзноў стаў перад расчараваньнем. Соткі міліёнаў людзей і далей церпяць духовую й фізычную няволю, матар'яльную галечу ў новай мадэрнай расейска-бальшавіцкай імпэрыі, якая, вырасшы на людзкіх цярпеньнях і ператварыўшы гэтыя цярпеньні у свой практычны ідэал, трымае й рэшту сьвету ў сталым напружаньні й небясьпецы новых няшчасьцяў.

Чаму так здараецца? Чаму людзтва нічога не навучылася на прыкладзе ўласных цяжкіх выпрабаваньняў?

Ці таму, што ідэі, догмы й амбіцыі, за якія змагаліся людзі й народы, выявіліся хвальшывымі ў сваёй аснове, няздольнымі задаволіць спрадвечных імкненьняў народаў, імкненьняў да свабоды, міру, справядлівасьці, прагрэсу? Ці таму, што прызнаныя ўсім людзтвам прынцыпы вольнага самавызначэньня народаў, прынцыпы праверанargyя й выпрабаваныя на практыцы, не атрымалі змогі быць праведзенымі ў жыцьцё на вялікай прасторы Эўропы й Азіі?

Ці не таму, што тыя, што часова добра маюцца, забываюць аб няшчасьці іншых? Ці не таму, што расьпераз(а)наму эгаізму, хвараблівым экспансіянісцкім амбіцыям і гвалту некаторых народаў сьвет не сказаў у час свайго рашучага слова, слова асуджэньня й пагарды? Ці не таму, што цывілізаваны сьвет не падтрымаў у час тых сілаў, якія ў няроўным змаганьні супраціўляліся гэтаму гвалту? Ці не таму, што вольныя народы часта й сяньня вагаюцца сказаць сваё рашучае слова ў вабарону ахвяраў гэтага гвалту?

Таму на фоне трагічных супярэчнасьцяў нашага часу, перад абліччам крычачай непасьлядоўнасьці людзей, Слуцкае паўстаньне вырысоўваецца яскравым прыкладам ня толькі ахвярнасьці й гэраізму, але й здаровага розуму, заложанага ў прыродзе звычайных людзей, не заражаных бацыламі авантурніцтва й экспэрымэнталізму. Случчакі — звычайныя сяляне й работнікі — сваім прыродным інстынктам адразу адчулі тую небясьпеку, якая, прыкрываючыся хвальшывымі лёзунгамі свабоды, сацыялізму і гэтак далей, пагражала ня толькі незалежнасьці маладой Беларускай Народнай Рэспублікі, ня толькі існаваньню й разьвіцьцю беларускага народу, як свабоднай дэмакратычнай нацыі, але й свабодзе ды дэмакратыі наагул.

Нягледзячы на тое, які ход прыме будучае разьвіцьцё міжнароднага палажэньня, можна з упэўненасьцяй сказаць, што высілак і ахвярнасьць Случчакоў будзе заўсёды і ўва ўсіх абставінах падтрымоўваць нашую веру ў тое, што душу народу, ягоных здаровых інстынктаў і імкненьняў ня зьменіць ніякая акупацыя, ніякія, хай сабе й найбольш пэрфідныя, мэтады пераўзгадоўваньня, у тым ліку й бальшавіцкія. Беларускі народ пераканаўча паказаў гэтую сваю прыродную якасьць.

Пасьля развалу царскай імпэрыі, у якой беларускаму народу давялося на працягу стагодзьдзяў цярпець страшэнную русыфікатарскую палітыку і ўсебаковую дыскрымінацыю, ён ня страціў пачуцьця свае нацыянальнае гордасьці і ў падходны мамэнт стаў у абарону сваіх нацыянальных ідэалаў. Спасярод дзесяткаў стыхійных народных паўстаньняў супраць небясьпекі новай калянізацыі нашага краю, Слуцкае паўстаньне, як адно з найбольш значных і арганізаваных, увайшло ў гісторыю беларускага нацыянальнага руху, як сымбаль неперарможнасьці імкненьняў беларускага народу да свае нацыянальнае свабоды й незалежнасьці.

**М. Кручкоўскі**

ВЕРА РЫЧ

## На угодкі Слуцкае бітвы

Што да праўды тады, у вагністы той момант,
Калі сьвет малюнковых сяльчан, паясоў весялковых,
Край песьняў, загублены у балатох,
Выбухае буйным цьветам болю і славы?
  Па часе — гісторыкі хай дыскутуюць матывы,
Талкуюць пра тактыку, строшчваюць стратнасьць стратэгіі
(Падзеленасьць сілаў, або недасіласьць засілкаў).
Па часе, як новымі межамі ўскраецца край
І новыя карты ўжо новыя хварбы забарвяць — забудзецца тое.
Па часе — адно гістарычная дата нядолі,
Зьніклівая зорка ў зайрдзелай зары пераможцы.
  Тады-ж, калі соль ад крыві на віно замяняе паветра,
Выскак сэрца і ўсё, што агнём у душы,
Пяе так празрыста, як выбліск мяча на віхуры марознай,
І быцьцё ўсё карбуецца ў небе крывавым крыжом, —
Тады, на ўскраечку сьмерці, жыцьцё — дарагі самацьвет,
Дыямэнтава кропля, ў якой ачышчаецца ўсё адчуваньне.
  Мы ня можам жыць, ужо шмацьце газэтаў
Разьвяваецца ў пыл, закрываўлены лісьць
Парахнее пад сьнегам, а палкае сэрца
Прыстае біць у бубен балючага гора,
І мы дыхаем здушаным мірам, будзённай дзяньгубай мадзеньня...
Жывом... жывуць... зьняможаны сон сьціхамір'я...
І гнілой асакою шасьціць самата балатоў...
Аж пакуль зык спалоху з-за год раскатурхае рэха
Там, у лёху ліхім, за цямрычнай апонаю ветру,
Ды яска сьвятла, белая з слуцкіх магілаў,
Вербы насталіць зь імглы у бліскучыя дзіды,
Знойдзе гэроеву кроў, увабраную стромай сутону.

Пераклаў з ангельскае **В. Бірыч**



**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

# „Гаганаўскі рух“ – вынік супярэчнасьцяў тэорыі й практыкі

Кіраўніцтва ЦК КПСС вядзе цяпер узмоцненую кампанію над пашырэньнем г. зв. «гаганаўскага руху», які становіць сабой быццам новае камуністычнае дачыненьне да працы.

Фармальным пачаткам гэтае кампаніі была заява Хрушчова на чэрвеньскім пленуме ЦК КПСС ў 1959 годзе:

«...Я й сам перажываў вялікую радасьць, — казаў Хрушчоў, — калі слухаў выступленьні выдатнай камсамолкі Валянтыны Гаганавай...

Каштоўнасьць і шляхотнасьць паступку гэтага чалавека ў тым (у кастрычніку 1958 г. Гаганава перайшла на працу ў адсталую, з больш нізкай аплатай брыгаду, — заўвага аўтара — В. М.), што не матар'яльная зацікаўленасьць штурхнула яе на гэты крок, а ідэя, ідэйная адданасьць камуністычнаму ладу. І ў імя гэтага ладу чалавек ідзе на асабістыя ахвяры» («Правда», 2. 7. 1959).

Пастуцак Гаганавай быў названы савецкай прапагандай «новай бачынай у летапісу за камуністычную працу» ды абвешчаны «пачаткам вялікага руху за камуністычныя дачыненьні да працы». Пленум ЦК КПСС патрабаваў ад усіх партыйных, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацыяў «ачоліць гэты растучы патрыятычны рух». Валентыне Гаганавай савецкі ўрад прысвоіў тытул «Гэроя сацыялістычнай працы» ды ўручыў высокія ўрадавыя ўзнагароды. Ейнае імя было ўпісана ў дзяржаўную кнігу гонару й кнігу гонару ЦК ВЛКСМ.

Прэзыдыюм ЦК ВЛКСМ распрацаваў мерапрыемствы для пашырэньня гэтага руху на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах. Мець свайго «гаганаўца» — сталася абавязкам кажнага прадпрыемства. Гарадзкія, раённыя й абласныя сустрэчы й канфэрэнцыі «гаганаўцаў» праводзяцца па ўсім Савецкім Саюзе.

Трэба мець на ўвазе, што падобныя кампаніі за павышэньне вытворчасьці працы ў СССР зьявішча ня новае, аднак, гэтая кампанія мае свае характэрныя асаблівасьці. Галоўная зь іх заключаецца ў спробе кіраўніцтва КПСС пераглядзець і ўнесьці істотныя зьмены ў прынцыпы, пакладзеныя ў васнову імжа нядаўна інсьпіраванага руху гэтак званых брыгад камуністычнай працы.

Як вядома, брыгады «камуністычнай працы» былі арганізаваныя паводля наступных прынцыпаў: павышэньне вытворчасьці працы, дасканаленьне працоўнай кваліфікацыі, культурныя паводзіны ў грамадзтве й быце, г. зв. прынцыпы, у якіх у сутнасьці няма нічога камуністычнага. Практыкаваныя-ж у СССР арганізацыі працы й формы змаганьня за павышэньне прадуктыўнасьці, што базуюцца на строгім нармаваньні працы й аплаце яе паводля прадукцыі, супярэчаць марксістоўскаму паняцьцю камуністычнае працы, для якое Ленін даў наступнае азначэньне:

«Камуністычная праца ў больш вузкім і срогім сэньсе слова — гэта праца бясплатная на карысьць грамадзтва, праца... не паводля раней вызначаных і ўзаконеных нормаў, праца вонках нормы, праца... бяз умоваў аб узнагародзе» (Ленін, соч., выд. 4, т. 30, бач. 482).

Такое выразнае разыходжаньне тэорыі з практыкай «камуністычнае працы» выклікае зьдзіўленьне навет у самым Савецкім Саюзе. Хрушчоў быў змушаны выступіць на XXI зьезьдзе супраць крытыкі срогага захаваньня і ў далейшым прынцыпу «ад кажнага паводля здольнасьці — кажнаму паводля працы». Пытаньні трактаваньня «камуністычнае працы» крытыкуюцца ня толькі савецкімі тэарэтыкамі. У савецкім друку зьяўляюцца заўвагі й радавых савецкіх грамадзян, што выказваюць сваё зьдзіўленьне з гэтае прычыны.

«Зразумела, пры камунізьме праца будзе высока прадуктыўнай. Але-ж ці можна толькі з гэтае прычыны назваць яе камуністычнай?» — пытае А. Моргун у «Комсомольскай правде» з 22. 2. 1959 г. і далей цьвердзіць, што высокую вытворчасьць працы можа даць любое капіталістычнае прадпрыемства.

Крытыкуецца таксама ўзношаньне на вяршыні дасягненьняў работнікаў, стымуляваных вылучна матар'яльнай зацікаўленасьцяй, а таксама стаўленьне ў прыклад тых работнікаў, якія, хаця й перабыконваюць пляны ды працуюць збышгадзінна, аднак «кажны рух рублём мераць».

У друку зьявіліся й афіцыйныя прызнаньні аб няправільным, павярхоўным падходзе да паняцьця «камуністычны», з заклікамі да больш асьцярожнага ўжываньня яго:

«...Людзі забываюць аб тым, што слова «камуністычны» патрабуе да сябе вельмі асьцярожнага дачыненьня, што многа з таго, што мы называем «камуністычным», ня ёсьць яшчэ камуністычным, а толькі змаганьнем за далейшае ўмацаваньне сацыялізму» («Молодой коммунист», № 9, 1959, бач. 63).

Усё гэта змусіла кіраўніцтва ЦК КПСС пераглядзець свае палажэньні аб прынцыпах «камуністычнай працы». Патрабавалася знайсьці, напершае, выразную розьніцу між цяперашняй «камуністычнай» працай і працай капіталістычнай, г. зн. працай наагул, а падругое, пачаць кампанію супраць узмоцненай «эгаістычнай» псыхалёгіі грамадзян. У сувязі з гэтым, кіраўніцтва КПСС і пачало больш настойліва прапагаваць ідэйныя, маральныя фактары, якія павінны пабуджаць савецкіх грамадзян да працы, і гэтым азначыць іх камуністычнае дачыненьне да працы.

Матывуючы «дасягненьні» Гаганавай ідэйнай адданасьцяй камуністычнаму ладу, Хрушчоў гэтым разам падчыркнуў, што

«...Ніколі чалавек, які думае капіталістычнымі паняцьцямі жыцьця, ніколі ён не паверыць, каб работнік адмовіўся ад працы, якая лепш аплочваецца, і дабраахвотна перайшоў на працу, якая горш аплочваецца...» («Правда», 2. 7. 1959).

Яўная каньюнктурнасьць гэтага цьверджаньня, як і ўсёй праводжанай кампаніі «гаганаўскага руху», праяўляецца таксама і ў непасьлядоўнасьці ў праводжаньні гэтага партыйнага мерапрыемства.

У ягоную аснову пакладзены паступак, які паводля свайго палітычнага й эканамічнага значэньня ў сучаснай савецкай запраўднасьці ня можа служыць ні лепшым прыкладам асабістай матар'яльнай ахвярнасьці савецкага работніка, ні «вялізарным патрыятычным дасягненьнем», як яго назваў Арыстаў у прамове 6-га лістапада сёлета, з нагоды 42-ой гадавіны Кастрычніцкага пераваротy.

Пераход работніка з брыгады ў брыгаду, хоць-бы й зьвязаны з матар'яльнай стратай, аднак стратай, як яе азначыў Хрушчоў, часовай, ня можа раўняцца з ахвярамі міліёнаў людзей, якія выехалі й выяжджаюць на асваеньне цалінных земляў у Казахстане або на новабудоўлі ў Сібіры. Іхныя асабістыя ахвяры куды большыя, чымся ахвяра Гаганавай і беспараўнаньня важнейшыя з гледзішча дзяржаўных інтарэсаў. Аднак ЦК КПСС у свой час падобнага значэньня ім ня прыдаваў, бо гэта адбывалася пры іншых палітычных умовах. І толькі цяпер, дапоўніўшы палажэньне аб дачыненьні да працы ідэйнымі фактарамі і абвесьціўшы паступак Гаганавай ідэялам камуністычнай маралі, кіраўніцтва КПСС паспрабавала ня толькі выправіць памылку ў азначэньні «камуністычнае працы», але й значна ўзмоцніць прапаганду супраць прыватнасобсьніцкай псыхалёгіі, супраць узмацненьня ў ёй тэндэнцыяў узаемаразьліку з «сваёй-жа сацыялістычнай дзяржавай». Аднак і тут ЦК ізноў уваходзіць у супрацьлежнасьць з сваёю собскаю палітыкаю. Выступаючы за ўзмацненьне прынцыпу матар'яльнай зацікаўленасьці работнікаў, які зьяўляецца «наважальнай перадумовай стварэньня матар'яльна-тэхнічнай базы камунізму», ЦК КПСС у той-жа час грозна нападае на «бухгальтарскі разьлік» савецкіх работнікаў із сваім працадаўцам — дзяржавай. У гэтым «разьліку» ЦК КПСС бачыць пагрозу для дзяржаўнага ладу.

«...бухгальтарскі разьлік — колькі я табе, столькі й ты мне, ужываны навет да сваёй дзяржавы — ня толькі прыніжае вобраз чалавека, але й вядзе яго па небясьпечнай у грамадзкім дачыненьні дарозе» («Известия», 25. 10. 1959).

Пробуючы выясьніць паходжаньне сягоньняшняга «эгаістага» й называючы яго «худаносным адпрыскам мінулага» «Известия» цьвердзяць, што: «Эгаізм ня можа разьвіцца без адпаведнай, неабходнай яму глебы (Тамсама).

А гэта азначае, што ягоная глеба закладзена ў самым савецкім грамадзтве, у ягоным цяперашнім і праклямаваным на будучае спосабе разьмеркаваньня.

ЦК КПСС цьвердзячы, што гэты спосаб разьмеркаваньня будзе існаваць яшчэ вельмі доўга, у той-жа час настойліва патрабуе й падтрымоўвае два, адзін другому супярэчлівыя прынцыпы пабуджэньня да працы: прынцып матар'яльных і ідэйных дзэйнікаў. Навет яшчэ больш, ён высунуў парадаксальнае палажэньне аб тым, што шлях да запраўднае «комуністычнае працы», да працы ў васнове якое ляжаць ідэйна-маральныя дзейнікі, базуецца на ўзмацненьні прынцыпу матар'яльнай зацікаўленасьці работнікаў.

«Дыялектыка перарастаньня сацыялізму ў камунізм паказвае, што перамога камуністычнае працы зрэалізуецца не шляхам перадчаснай штучнай адмены сацыялістычнага прынцыпу разьмеркаваньня паводля працы, а праз яго пасьлядоўнае правядзеньне ўва ўсіх галінах вытворчасьці». (Коммунист», № 14, 1959, бач. 43).

Трэба мець на ўвазе, што з мамэнтам абвешчаньня аб уступленьні савецкага грамадзтва ў пэрыяд разгорнутага будаўніцтва камунізму, савецкая прапаганда ўсё больш і больш узбагачаецца падобнымі парадаксальнымі цьверджаньнямі. Да іх у прыбатнасьці належаць: палажэньне аб «перарыўна-неперарыўным» характары перарастаньня сацыялізму ў камунізм, аб «адміраньні дзяржавы шляхам ўсясьветнага павышэньня яе ролі», аб «стварэньні адзінай сацыялістычнай нацыі, шляхам разьвіцьця культураў і моваў паасобных нацыяў», аб стварэньні адзінае, вышэйшае камуністычнае формы собскасьці шляхам расшырэньня й умацаваньня ейнае ніжэйшае — каапэратыўна-калгаснае формы й інш.

Спрабуючы прыдаць гэтым супярэчным цьверджаньням лягічны, заканамерны характар, кіраўніцтва КПСС тлумачыць іх «дыялектычнай узаемазалежнасьцяй супрацьлежных тэндэнцыяў» («Коммунист», № 14, 1959, бач. 40), або яшчэ мягчэй — «дыялектычным адзінствам падвойнага працэсу разьвіцьця грамадзтва» (Тамсама).

Аднак, якія-б паясьненьні й тлумачэньні не даваў ЦК КПСС гэтым парадаксальным зьявішчам, ясна адно — камуністычная тэорыя ўступіла ў рэзкія супярэчнасьці з практыкай пабудовы камуністычнага грамадзтва і гэтага ніяк нельга скрыць навет ад савецкіх грамадзян.

**В. Міняйло**

**(«Анализ текущих событий»)**

# Надзвыкчайны зьезд нямецкае сацыял-дэмакратыі

Надзвычайны зьезд Нямецкай сацыял-дэмакратычнай партыі, які адбыўся у Бад-Годэсбэргу й скончыўся 5-га лістапада, прыцягнуў да сябе ўвагу цэлага сьвету. Аб гэтым выразна сьветчыў і вонкавы выгляд зьезду. Апрача дэлегатаў, на зьездзе былі прысутныя ня толькі шматлікія прадстаўнікі вялікіх арганізацыяў працоўных-работнікаў, урадоўцаў і сялянаў Нямеччыны, і прадстаўнікі сацыялістычных партыяў розных краінаў, але й дыпляматычныя прадстаўнікі 20 краінаў, прадстаўнікі цэркваў розных веравызнаньняў, не гаворачы ўжо аб журналістых розных краінаў і розных кірункаў.

Што выклікала такое зацікаўленьне гэтым зьездам? Мэтай зьезду было прыняцьце новай партыйнай праграмы. Але гэта ня выклікала-б такога зацікаўленьня, калі-б ня пэўныя фактары. Перамену праграмы, адпаведна з новымі вымогамі часу, нямецкая сацыял-дэмакратыя праводзіла цяпер пяты раз. Але прыняцьце новай праграмы гэтым разам мае надзвычай вялікае значэньне. біручы на ўвагу вялікія зьмены ў новай праграме, а таксама сваесаблівае палажэньне Нямеччыны ў наш час.

Сацыялістычныя партыі ўжо даўно ўсьведамлялі сабе неабходнасьць зьменаў ў іхных праграмах, у сувязі із зьменамі, якія адбыліся апошнім часам у структуры грамадзтва іхных краінаў. Сацыялістычны Інтэрнацыянал, які аб'ядноўвае ўсе дэмакратычныя сацыялістычныя партыі, выпрацаваў новыя прынцыповыя палажэньні на Франкфурцкім Кангрэсе ў 1951 годзе. Паводля гэтых палажэньняў, некаторыя сацыялістычныя партыі ўжо прынялі новыя праграмы. Тут перш за ўсё трэба назваць аўстрыйскую і швайцарскую сацыял-дэмакратычныя партыі. Цяпер прыйшла чарга на найбольшую сацыялістычную партыю эўрапэйскага кантынэнту — нямецкую сацыял-дэмакратыю.

Старшыня нямецкай сацыял-дэмакратычнай партыі Эрых Оленгаўэр, які выступіў з дакладам аб праекце новай праграмы, заявіў, што сацыял-дэмакратыя не зьяўляецца сэктай, што яна адкідае ўсякі дагматызм і што для яе не абавязковая ніводная тэорыя — ні марксысцкая, ні якая-небудзь іншая. Ён падкрэсьліў, што сацыял-дэмакратыя шануе кажную рэлігію й згодная супрацоўнічаць з кажнай царквой як у сацыяльнай, так і культурнай дзейнасьці.

Вось мэты, якія ставіць перад сабой нямецкая сацыял-дэмакратыя паводля новай праграмы: свабода чалавека й нацыяў, замацаваньне дэмакратычнага рэжыму й палепшаньне сацыяльнага палажэньня народных масаў, выключэньне эксплятацыі чалавека чалавекам. Дзеля дасягненьня сваіх мэтаў у сацыяльнай галіне заходня-нямецкія сацыял-дэмакраты ўважаюць за неабходнае падтрымоўваць прыватную ініцыятыву й дэмакратызаваць эканамічнае жыцьцё шляхам разьвіцьця грамадзкае дэмакратычнае кантролі над рознымі галінамі вытворчасьці. У сваёй новай праграме сацыял-дэмакратычная партыя Заходняй Нямеччыны фактычна адмаўляецца ад нацыяналізацыі прамысловасьці, прызнаючы яе толькі ў тым выпадку, калі гэтае мерапрыемства гарантуе павышэньне прадукцыі пэўнай галіны прамысловасьці, а гэтым самым і жыцьцёвы ўзровень насельніцтва

У сваім дакладзе Оленгаўэр асабліва падкрэсьліў, што заходня-нямецкія сацыял-дэмакраты рашуча адкідаюць усякую дыктатуру — як фашысцкую, так і камуністычную — і ўсякі імпэрыялізм, уключна з камуністычным, ды што іхным першым дамаганьнем зьяўляецца задзіночаньне Нямеччыны ў свабодзе і дэмакратыі.

Оленгаўэр заявіў, што стоячы на грунце самавызначэньня ўсіх народаў, заходня-нямецкія сацыял-дэмакраты ўважаюць патрэбным бараніць сваю бацькаўшчыну, і з гэтай мэтай падтрымоўваюць арганізацыю ейных збройных сілаў. Найлепшай гарантыяй міру яны ўважаюць ўсеагульнае кантраляванае разэбраеньне, задзіночаньне Эўропы і замацаваньне Задзіночаных Нацыяў.

Пасьля ўсебаковых дыскусіяў над кажным пунктам, новая праграма заходня-нямецкай сацыял-дэмакратычнай партыі была прынятая пераважнай бальшынёй галасоў (320 супраць 16).

Заява Оленгаўэра аб праве самавызначэньня ўсіх народаў, дало карэспандэнту Радыя Свабода нагоду папытацца Оленгаўэра падчас паўзы паміж дэбатамі, ці ягоная заява тычыцца таксама народаў Савецкага Саюзу. «Усіх народаў, — голасна адказаў Оленгаўэр. — Мы жадаем самавызначэньня й дэмакратыі для ўсіх народаў».

**Р. С.**

# Думкі аб падарожжы

Вестка аб падарожжы прэзыдэнта Айзэнгаўэра ў сталіцы 10-ці краінаў Азіі й Эўропы ўзбудзілася шчырае задаваленьне ў вольным сьвеце, дзе далёка ня ўсе цешыліся з інтымнага дуэту ў Кэмп Дэйвід. Тымбольш, што бальшавіцкія верхаводы — быццам-бы перакананыя матар'ялістыя — ў апошнім часе самі пачалі выклікаць і паклікацца на розных духаў: пярвей на сумнай памяці духа Жэнэвы, а цяпер — «духа Кэмп Дэйвід». Як ведаем «дух Жэнэвы» спрычыніў вялікія шкоды вольнаму сьвету й трэба было некалькі гадоў часу, каб яго разьвеяць. Маскоўскія валадары застаюцца матар'ялістымі, а іхная мэтафізыка — тандэтны тавар на экспарт для наіўных. Прыкладам, сам Хрушчоў, езьдзячы па Амэрыцы, часта, а часам навет з сымпатыяй прыгадваў Бога й паклікаўся на Эвангельле, але хто-ж цьвяроза думаючы, паверыў у гэтую камэдыю? Таму, калі яны часта пачалі выклікаць і паклікацца на «духа Кэмп Дэйвід», адразу паўстала падозраньне, што яны хочуць запрэгчы ў свае сані яшчэ аднаго духа, каб і гэты папрацаваў на іх.

Праехаць 20 тысяч кілямэтраў праз некалькі дзён і ў такую благую пару, мець дзесяткі канфэрэнцыяў і дыскусіяў, гэта — паважны высілак для ўжо немаладога й не занадта здаровага чалавека. Таму пэўна-ж Айзэнгаўэр, рашаючыся на гэтае падарожжа, не рабіў гэтага дзеля турыстыкі. Сваім падарожжам Айзэнгаўэр хоча даказаць, што ён ня мае намеру задаволіцца дуэтам ці квартэтам «чатырох моцных», але таксама лічыцца й зь іншымі дзяржавамі ды ўзгадняе зь імі пытаньні ў сувязі з далейшымі перамовамі з камуністычным блёкам у васобе Хрушчова.

Цяжка цяпер прадбачыць вынікі гэтага падарожжа й ягоныя ўплывы на будучыя перамовы, таму і цешыцца, пэўна-ж, яшчэ зарана. Але тое, што Айзэнгаўэр, у вадрозьненьне ад Хрушчова, не занадта захапляецца «духам Кэмп Дэйвід», можна ўжо разглядаць, як зьявішча пазытыўнае. Рэч зразумелая, калі гэтае падарожжа дасьць прыбытак вольнаму сьвету.

Вестку аб падарожжы Айзэнгаўэра ў Маскве прынялі зь кіслай мінай, але бяз выразнай злосьці. Затое бальшавіцкія верхаводы рынуліся з войстрай лаянкай на былога дзяржаўнага сакратара Задзіночаных Штатаў Эчысона й іншых кіраўнікоў амэрыканскай апазыцыі, якія апошнім часам войстра крытыкавалі Айзэнгаўэра за ягоную палітыку уступстваў Маскве.

Выступаючы на маніфэстацыі парлямэнтарыстых краінаў НАТО, Эчысон выразна, а навет можна сказаць, драматычным тонам перасьцерагаў перад занадта аптымістычным падыходам да бальшавіцкіх абяцаньняў і заклікаў да сур'ёзнай ацэны праўдзівых намераў Масквы. Эчысон сказаў:

«Гаварыць аб перамовах і магчымасьцях дамаўленьня ў справе Бэрліну — гэта толькі мутная фразэялёгія, за якой хаваецца адступленьне на бальшавіцкіх умовах.

«Гісторыя набліжаецца да вырашальнага мамэнту, які пакажа, ці заходняя кааліцыя зможа стацца супраціўвагай камуністычнага блёку. Калі гэта ня зьдзейсьніцца, аб прабегу гісторыі ад 1960-га году будзе вырашаць мацнейшы савецка-кітайскі блёк.

«Трэба павялічаць абаронную сілу ў Эўропе да такіх памэраў і так, як гэтага дамагаецца галоўная кватэра НАТО. Аднак нічога ня робіцца ў гэтым кірунку...»

Пэўна-ж, у гэтых пэсымістычных выказваньнях Эчысона ёсьць і апазыцыйная дэмагогія. Аднак ёсьць і сумная праўда: шмат заходніх дыпляматаў вельмі-ж схільныя засынаць пад прымітыўныя казачкі хрушчоўскіх абяцанак. Таму ім часам трэба выліць вядро сьцюдзёнай вады на галовы, як гэта зрабіў Эчысон.

20-тысячкілямэтравым падарожжам, пэўна-ж, нельга ані запалохаць, ані зьдзівіць Хрушчова, які таксама ня ўсідлівы на адным месцы чалавек. Але калі гэтае падарожжа запраўды спрычыніцца да кансалідацыі вольнага сьвету — вялікія высілкі й кошты ня будуць змарнаваныя.

**пс**

**З радыёвай хвалі «Свабода»**

# Альбэрт Паўловіч

Гумар і сатыра — небясьпечныя жанры ў савецкай літаратуры. Аб гэтым гавораць факты рэчаіснасьці. Вядомы пісьменьнік Зошчанка пісаў бытавыя апавяданьні, насычаныя народным гумарам. Пісьменьніка ўсе шанавалі і прызнавалі ягоны аўтарытэт. І ня толькі народ, але й савецкія саноўнікі, чытаючы ягоныя творы, сьмяяліся і ня бачылі нічога «ідэялягічна варожага».

Навет Дзям'ян Бедны — гэты былы прыдворны лёкай Крамля — не заўсёды мог дагадзіць сваім гаспадаром і нейкі час быў у вялікай няласцы.

Але горш за ўсіх цярпелі пісьменьнікі нацыянальных рэспублікаў. У Савецкай Беларусі быў амаль толькі адзін гумарысты-сатырык, які пісаў на сучасныя тэмы. Гэта — Кандрат Крапіва. Ён пісаў сьмела і войстра. Але нядоўга трымаўся ён на баявой пазыцыі. Пасьля разгрому гэтак званай «нацдэмаўшчыны» Крапіва пакінуў пісаць гумарыстычныя вершы, перайшоў на іншы жанр — драматургію, пазьней уступіў у камуністычную партыю і канчальна згубіў свой талент.

Трэба пры гэтым прыгадаць яшчэ аднаго паэта-гумарыстага — Альбэрта Паўловіча. Гэты таленавіты аўтар баек і вершаваных гумарэсак быў вельмі папулярным у нашаніўскую пару. Цяпер ягонага імя вы ня знойдзеце ні ў хрыстыматыях, ні ў падручніках гісторыі беларускай літаратуры.

Аб Альбэрце Паўловічу цяпер мала хто ведае. Варта яго прыгадаць. Беларускі паэт-байкар, аўтар гумарыстычных вершаў. Нарадзіўся ён 11-га лістапада 1875-га году ў Менску. Літаратурную працу пачаў у 1910-м годзе. Друкаваўся ў часапісе «Наша Ніва».

У 1910-м годзе Паўловіч выдаў зборнік гумарыстычных вершаў «Снапок», у якім зьмешчаныя такія творы, як «Пан і акуляры», «Зь кірмашу», «Пястун» і «На рынку». У 1919-м годзе напісаў п'есу «Васількі». Быў добрым перакладчыкам.

Паэт на пачатку існаваньня савецкай улады жыў у родным Менску, працаваў бухгальтэрам. Пазьней быў сасланы ў далёкія месцы СССР. І ўжо ў 30-ых гадох пра яго, як быццам, забыліся.

Гэткая горкая доля — быць выгнаным з Бацькаўшчыны і жыць на чужыне — напаткала і другога нашаніўца — паэтку Канстанцыю Буйла, якая толькі пасьля Другой сусьветнай вайны вярнулася ў родны край.

Альбэрту Паўловічу не пашчасьціла вярнуцца: ён памёр у самоце, далёка ад радзімы, 17-га сакавіка 1951-га году.

Савецкая прэса ані словам ня прыгадала аб ім і пасьля ягонай сьмерці. Толькі пазьнай, у 1957-ым годзе, калі пракацілася хваля «рэгабілітацыяў» жывых і мёртвых пісьменьнікаў, якія былі перасьледваныя бальшавікамі, газэта «Літаратура і мастацтва» надрукавала некалькі радкоў аб ім і падала тры ягоныя вершы пад агульным назовам — «Зь літаратурнай спадчыны Альбэрта Паўловіча». Гэта былі творы раньняга пэрыяду дзейнасьці паэты.

Голас Альбэрта Паўловіча ў беларускай літаратуры гучыць пратэстам супраць бальшавізму. Ягоныя творы, напісаныя да рэвалюцыі, актуальныя і цяпер. Паэт у сваіх сатырах моцна біў па сацыяльнай несправядлівасьці, і гэты ўдар асабліва вычуваецца на сяньняшнім «сацыялістычным» ладзе. Альбэрт Паўловіч умеў выкарыстаць народна-бытавы гумар, умеў шчыра і лёгка сьмяяцца. Бальшавіцкі рэжым здушыў ягоны сьмех. І вось ужо мінула колькі часу, а Альбэрта Паўловіча больш ня прыгадваюць.

**К. Г.**

# Памяці Доктара Аляксандры Орсы

2-га лістапада 1959 г. уранку ён проста не прачнуўся. . . .

Сон — адпачынак перайшоў у непрабудны сон магілы, перакідаючы мост ад забыцьця ў нябыцьцё.

Яго ўжо больш няма між нас. Аднак назаўсёды застанецца сума духовых вартасьцяў, створаных і закладзеных у душы іншых, гэтым чалавекам. Гэтак, у працэсе духовага прагрэсу людзтва продкі, праз духовае ўзьдзеяньне на нашчадкаў, застаюцца жыць вечна ў сваіх дзеяньнях.

Сьвятое памяці Доктар Аляксандар Орса нарадзіўся 24-га ліпеня 1896 году ў мястэчку Нягневічы ў Навагрудчыне. У 1913 г. скончыў Гарадзкое Вучылішча ў Навагрудку, пасьля чаго паступіў на 2-х гадовыя Настаўніцкія Курсы, якія скончыў у 1915 г. з тытулам настаўніка пачатковых школаў. У гэтым самым годзе быў пакліканы ў армію. У арміі скончыў школу прапаршчыкаў у Гатчыне з рангаю прапаршчыка. У часе Першае Сусьветнае Вайны прабыў каля двох год у акопах ля Дзьвінску. Вайну скончыў у ранзе капітана. Пасьля рэвалюцыі ў пачатку 1918 г. вярнуўся ў Навагрудчыну і, у часе нямецкае акупацыі, быў настаўнікам пачатковае школы ў в. Гарабевічы. Пасьля прыходу Палякаў пакідае працу ў школе і займаецца грамадзкай працай.

У гэтым часе насельніцтва Нягневіцкае воласьці выбірае яго сваім прадстаўніком па распадзелу амэрыканскае харчовае дапамогі ахвярам вайны. А. Орса арганізоўвае дапамоговыя камітэты ў Навагрудзкай акрузе. Паралельна з гэтым разгортваецца культурна-асьветная праца, у якой ён прымае актыўны ўдзел, ладзячы культурна-асьветныя вечары, беларускія спэктаклі. Падзеі разгортваюцца хутка. Грамадзка-культурная праца, зьяўляючыся адным з аспэктаў беларускае нацыянальна-палітычнае акцыі, ўцягвае маладога А. Орсу ў гэтую акцыю.

Гэтак, у 1922 г. А. Орса прымае актыўны ўдзел ў выстаўленьні беларускае выбарчае лісты ў Сойм і Сэнат ад Блёку Нацыянальных Мяншыняў па Навагрудзкай акрузе. Дзякуючы энэргічнай агітацыі ў якой прымае ўдзел А. Орса, Беларусы здабываюць з 6-ці магчымых 4 мандаты (3 пасольскія і 1 сэнатарскі).

Імкнучыся атрымаць вышэйшую асьвету, А. Орса эмігруе ў Чэхаславакію, дзе, пры Украінскім Пэдагагічным Інстытуце, экстэрнам здабывае матуру сярэдняе школы і залічваецца студэнтам гэтага інстытуту. Паралельна ён паступае ў чэскі Унівэрсытэт Карла на прыраднічы аддзел, які й канчае і, па залічэньні дысэртацыі, 23-га чэрвеня 1929 г. атрымоўвае тытул Доктара Прыродазнаўчых Навук.

У 1929 г. А. Орса вярнуўся на Беларусь і распачаў працу ў якасьці настаўніка прырадаведы ў Навагрудзкай Беларускай Гімназіі, у якой і працаваў да часу яе зачыненьня ў 1934 г. польскімі ўладамі.

Вясною 1931 г. пры Варшаўскім Унівэрсытэце ён настрыфікаваў праскі дыплём і, у гэтым самым часе, пры Віленскім Унівэрсытэце здаў пэдагагічны экзамін.

Неабходна адцеміць, што маючы ўсе кваліфікацыі на атрыманьне настаўніцкае працы ў польскай дзяржаўнай гімназіі, ці нават добра платнай пачатковай школе, А. Орса зьвязвае свой лёс з беднай у той час яшчэ прыватнай, гэта значыць утрымоўванай выключна з вучнёўскіх аплатаў, Навагрудзкай Беларускай Гімназіяй.

Жывучы з сям'ёю на жабрачай аплаце ён, разам з рэштаю ахвярных настаўнікаў гімназіі, узбагачае розум беларускай пераважна сялянскай моладзі, фармуе яе духова, гартуе нацыянальна.

Хлапцоўская бурса пад ягоным кіраўніцтвам — гэта школа сужыцьця, школа дэмакратычнага самакіраўніцтва ў межах азначаных ім, як адказным настаўнікам — узгадавальнікам.

Нагладаючы за працаю вучнёўскага камітэту, прысутнічаючы на сходах вучняў-бурсакоў, А. Орса ўмелай рукой старэйшага брата выраўноўвае памылкі, запаўняе недахопы, а ў выпадках бунтарнага хлапцоўскага непаслушэнства спыняе неразважны юнацкі разгон.

Будучы сябрам Будаўлянага Камітэту будовы гмаху для Навагрудзкай Беларускай Гімназіі, А. Орса прымае актыўны ўдзел у зборы сродкаў і падрыхтоўчай працы. З дырэктарам гімназіі Я. Цеханоўскім ён асабіста езьдзіць па вёсках, зьбіраючы збожжа на будынак. Плячо ў плячо з старэйшымі вучнямі, у вольны ад заняткаў час, з лапатаю ў руках ён працуе пры скопваньні касагору пад фундамант будынку. Я. Цеханоўскі, А. Орса і адвакат П. Сьвірыд даюць свае подпісы над вэксалямі на пазыкі для будовы.

Нішто так ня збліжае як супольна пражытыя годы, як адпіраньне супольнага ворага.

Навагрудзкая Беларуская Гімназія заціснутая паміж польскімі намаганьнямі яе зачыніць і камуністычнымі — выкарыстаць яе для сваіх мэтаў, згуртаваная вакол яе дырэктара Я. Цеханоўскага і гэткіх настаўнікаў як сьв. пам. А. Орса, цьвёрда ідзе сваім нацыянальным шляхом.

Нажаль, аднак, ня доўга. 16-га кастрычніка 1932 г. польскія ўлады перамяноўваюць яе ў Беларускую Філію Дзяржаўнае (польскае) Гімназіі імя А. Міцкевіча, а вясною 1934 г. зусім зачыняюць.

Пасьля ліквідацыі гімназіі А. Орса быў накіраваны часова ў польскую пачатковую школу ў Навагрудку з захаваньнем званьня настаўніка гімназіі, а ў 1938 г. яго пераводзяць на польскія этнаграфічныя землі ў Коньске (Келецкае ваяводзтва) для працы ў польскай гімназіі сьв. Станіслава Косткі.

У пачатку 2-гай Сусьветнай Вайны (восень 1939 г.) А. Орса вяртаецца з сям'ёю на Беларусь і, пасьля прылучэньня Заходняе Беларусі да Савецкага Саюзу, працуе настаўнікам у беларускай 10-цігодцы і ў Пэдагагічным Вучылішчы ў Навагрудку.

У 1941 г. пасьля прыходу Немцаў А. Орса быў выбраны беларускімі настаўнікамі Навагрудчыны на становішча Акруговага Школьнага Інспэктара, якое і займаў да 1944 г.

1944 г. . . Эміграцыя ў разьбітую Нямеччыну.

Але ўжо ў 1945 г., адразу пасьля заканчэньня вайны, у беларускім лягеры ў Рэгенсбургу ён закладае беларускую гімназію, дырэктарам якое ён зьяўляецца да пераезду ў 1949 г. у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі. Ён асабіста наведвае маладых хлапцоў, ловіць іх пры



**Доктар Аляксандар Орса**

спатканьнях, адрывае ад чаркі да якое ў атмасфэры пасьляваеннае дэмаралізацыі яны пачынаюць перадчасна хіліцца, нагаварвае, заклікае ўступаць у гімназію. Шмат хто паслухаў, у выніку чаго адчыняецца гімназія. Перанесеная пазьней разам з лягерам у Міхэльсдорф Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы праіснавала да 1950 г. Колькасьць вучняў, што прайшлі праз яе, даходзіць да 180.

Ізноў, як у Навагрудку, на 16 год ужо старэйшы А. Орса з ранейшым запалам, пры падтрымцы іншых настаўнікаў-патрыётаў, бярэцца за захаваньне для беларускага народу і ўзгадаваньне, закінутае вайною на чужыну, беларускае моладзі.

Ізноў, як і раньней, як і заўсёды, ахвярная праца для паняволенага народу не дае ніякіх матар'яльных карысьцяў, ды — й іх і ня шукаюць працаўнікі-ідэялістыя тыпу А. Орсы.

За час існаваньня гімназіі яе канчаюць каля 40 хлапцоў і дзяўчат, зь якіх каля 25 сяньня ўжо маюць закончаную вышэйшую асьвету.

У 1949 г. сьв. пам. А. Орса пераяжджае з сям'ёю ў ЗША. У чужой краіне бязь веданьня мовы ён пачынае з працы стоража дому. Хутка, аднак, падвучыўшыся мовы, ён уладжваецца лябарантам пры Жыдоўскім Шпіталі ў Брукліне. У міжчасе канчае Курсы Рэнтгеналёгаў.

Ня гледзячы на цяжкую працу пачаткавага пэрыяду і свой ужо не малады век, адразу пасьля пераезду ў ЗША, ён бярэцца за грамадзкую працу. А. Орса зьяўляецца адным з першых сяброў-закладчыкаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Доказам гэтага ягоны подпіс пад заяваю да амэрыканскіх уладаў у справе дазволу на стварэньне вышэйўспомненае арганізацыі. Год пазьней ён у ліку першых сяброў-закладчыкаў першае парафіі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью Ёрку. А. Орса быў першым старшынём Сэктару Рады БНР ад часу яго заснаваньня і Міністрам Асьветы Ўраду БНР на выгнаньні. Ён таксама адзін зь ініцыятараў і закладчыкаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку. А. Орса быў старшынём арганізацыйнага сходу Інстытуту.

Апошнім часам, як сябра камісіі па ўскладаньню падручнікаў для беларускіх школаў на эміграцыі, ён працаваў над падручнікам геаграфіі.

Неспадзяваная сьмерць перарвала багатае службай свайму народу жыцьцё вернага сына роднай Беларусі.

Парадкуючы паперы на ягоным стале пасьля сьмерці, сям'я знайшла незакончаны артыкул пад загалоўкам« «Думкі аб нацыянальным узгадаваньні» . . .

Напярэдадні сьмерці гэты беларускі настаўнік думаў аб тым, што запоўніла лепшыя годы ягонага жыцьця.

Жыцьцё чалавека — гэта найбольш абектыўнае выяўленьне і задакумантаваньне ягоных духовых вартасьцяў.

Жыцьцёвы шлях сьвятое памяці Доктара Аляксандра Орсы сьветчыць аб ягоных высокіх інтэлектуальных і духовых якасьцях, аб яго ахвярнасьці ў служэньні свайму народу.

Сьціплы, сумленны, просты ў адносінах з тымі, хто яго знаў, ён гэтым лішні раз пацьвярджаў, што не жаданьне славы, ці шуканьне нейкіх матар'яльных карысьцяў было рухавіком ягонае дзейнасьці, але толькі й выключна дабро беларускае справы.

Дэмакрат старога гарту, узгадаваны на традыцыі змаганьня супольна з народам і ў апоры на яго, заўсёды гатовы падпарадкавацца бальшыні, ён быў выразна азначанай індывідуальнасьцяй, здольнай адчынена рэагаваць на праявы няпраўды, несправядлівасьці, здольнай выявіць стойкасьць у справах прынцыповых.

*

Вялікая колькасьць былых супрацоўнікаў, былых вучняў прыбыла, каб правесьці яго на мейсца вечнага супачынку на беларускім могільніку ў Нью Брансьвіку.

І калі доўгі шнур аўтаў, ачолены катафалькам і аўтам з мноствам красак, на хвіліну спыніўся для апошняга разьвітаньня перад домам дзе жыў ён, на свой амэрыканскі спосаб выказала гэта суседка сям'і Орсаў па кватэры: «Глядзеце, які бедны быў чалавек, а колькі красак, колькі аўтаў праводзіць яго». Ня ведала яна, што іншым багацьцем быў багаты гэты небагаты матар'яльна чалавек.

Схіляючы галаву над сьвежай магілай, хочацца ад імя ягоных супрацоўнікаў, ягоных вучняў — як гэтых раськіданых па ўсяму шырокаму сьвету, так і тых, што засталіся там на Бацькаўшчыне ад душы сказаць:

— Спі спакойна, дарагі сябра, дарагі настаўнік. Няхай сьняцца табе любыя палі далёкай Беларусі.

**М. Рагуля**

*

Неспадзяваная сьмерць спыніла працавітае, адданае беларускай справе жыцьцё Доктара Аляксандры Орсы зусім нечакана для сям'і і ўсіх нас — сяброў, вучняў і супрацоўнікаў. Няхай-жа будзе яму лёгкай вольная амэрыканская зямля на беларускім могільніку. Безьліч кветак, зложаных на труну, найвыразьней сьветчыць аб вялікай пашане й пачуцьцях да Нябожчыка ўсіх нас Беларусаў. Пахавальнае Бюро сьцьвердзіла, што колькасьць кветак, зложаных сьв. пам. Доктару была найбольшаю за ўвесь час існаваньня Бюро.

Паніхіды па сьв. памяці Др. Аляксандру Орсу былі адслужаныя 3-га й 4-га лістапада ў Нью Ёрку Ўладыкам Васілём у саслужэньні мітр. пратаярэя а. Ф. Данілюка. Хор пяяў пад кіраўніцтвам сп. М. Тулейкі. На паніхідах былі прысутныя Беларусы зь Нью Ёрку, а таксама вельмі шмат з акалічных мясцовацьцяў і навет некалькі асобаў аж з Кліўленду.

Паховіны адбыліся ў чацьвер 5-га лістапада. 15 аўтамашын суправаджала цела Нябожчыка зь Нью Ёрку ў Іст Брансьвік на беларускі могільнік. Там яго спаткалі амаль усе Беларусы з Саўт Рывэру й Нью Брансьвіку.

На могільніку чын адпяваньня й ліціі адслужылі Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіяпіскап БАПЦарквы Васіль у саслужэньні мітрафорных пратаярэяў а. а. С. Войтэнкі й Ф. Данілюка. З разьвітальным словам над труною сьв. памяці Доктара А. Орсы выступалі: Уладыка Васіль, Заступнік Старшыні Рады БНР сп. А. Стагановіч, Старшыня Галоўнае Ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. К. Мярляк, ад Царкоўнае Рады БАПЦарквы Нью Ёрку — сп. М Міцкевіч, ад настаўнікаў — сп. Муха, ад былых вучняў — сп. В. Шчэцька.

Труна зь Нябожчыкам была пакрыта бел-чырвона-белым сьцягам, як сымбалем ягонага патрыятызму й адданасьці нацыянальнай справе. Сьцяг, перад апушчэньнем труны ў зямлю, быў зьняты, зложаны й перададзены сям'і, як памятка аб вялікіх заслугах сьв. памяці Др. Аляксандры Орсы перад беларускім народам.

Паховіны закончыліся адсьпяваньнем жалобнага беларускага маршу «Сьпі пад курганам гэрояў. . .» Пасьля паховінаў усе прысутныя былі запрошаныя на жалобную вячэру, якая адбылася ў залі Шака ў Саўт-Рывэры.

**Ф. Родзька**

---

скія ўнівэрсытэты. Літоўская (беларуская) шляхоцкая моладзь трымалася там асобнаю грамадою ад моладзі польскае й рускае». Гэта-ж сьцьвярджае й Якуб Гэйштар у сваіх «Успамінах»: «Літоўская (беларуская) ўнівэрсытэцкая моладзь трымалася ў Пецярбургу асобнай групай, была яна глыбейшая за моладзь польскую».

### ПАЧАТКІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭНЬНЯ

Пад уплывам францускае рэвалюцыі й рэвалюцыяў у Заходняй Эўропе ў 1848 г., з асяродзьдзя сярэдняе шляхты выйшлі паршыя беларускія нацыянальныя адраджэнцы, якія, упяршыню пасьля даўгога часу, пачалі, перш за ўсё, пісаць пабеларуску. Былі гэта пісьменьнікі Баршчэўскі, Вярыга, Марцінкевіч ды інш. Неўзабаве ў Віцебску заснавалася нялягальнае «Беларускае Выдавецкае Таварыства» пад кіраўніцтвам Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. Калі першыя выданьні згаданага Таварыства дасягнулі паэты Людвіка Кандратовіча, які, хоць быў з паходжаньня Беларусам, пісаў дагэтуль пад псэўдонімам Уладыслава Сыракомлі толькі папольску, той, зьдзіўлены, азваўся да Вярыгі гэткім беларускім вершам:

«Што табе, дудар, прысьпела,
гэткі песьні завадзіць,
ці то лёгкае, брат, дзела,
брацьцю нашу разбудзіць?»

Адылі, Беларускае Выдавецкае Таварыства было неўзабаве высачанае расейскай паліцыяй і зачыненае, а Арцём Вярыга арыштаваны й сасланы ў Сібір, дзе й загінуў. Але пачатага руху ўжо нішто не магло паўстрымаць. На Беларусі пачалі скрозь выбухаць сялянскія бунты. Замест зьліквідаванага ў Віцебску Выдавецкага Таварыства, у Беластоку заснавалася новае беларускае выдавецтва й інжынер Браніслаў Шварцэ пачаў выдаваць нелегальную беларускую газэтку пад назваю «Гутарка старога дзеда». Памагаў выдаваць газэтку Грынявецкі. Як радактар, падпісваў яе Белакоз. Беларускі шрыфт быў прывезены ў Беласток інжынерам Дэгнелем. «Стары дзед» тлумачыў сялянам у сваёй «Гутарцы» неабходнасьць вызваліцца ад прыгону й ад Расеі (Б. Ліманоўскі, Гісторыя паўстаньня народу польскага 1863-64). У 1856 г., на каранацыі Аляксандра II ў Маскве, маршалак шляхты Магілеўскай губэрні князь Любамірскі, на сходзе шляхты, што зьехалася з нагоды каранацыі ў Маскву, заявіў міністру нутраных справаў Расеі, што вызваленьне сялян ад прыгону ёсьць гістарычнай неабходнасьцяй і мусіць стацца як найхутчэй, бо сялянскія бунты пачынаюць прыймаць пагрозьлівы характар (Там-жа).

### КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

У 1860 годзе на Беларусі зьявіўся новы прапагандысты ідэі вызваленьня сялян ад прыгону, а Беларусі — ад Расеі. Быў гэта Кастусь Каліноўскі. Дзеля таго, што Кастусь Каліноўскі перайшоў у гісторыю Беларусі, як нацыянальны беларускі гэрой, я затрымаюся даўжэй на ягонай асобе.

Біяграфічныя дадзеныя аб Каліноўскім узятыя мною з кнігі Віктара Кардовіча, Паляка, які выдаў у 1955 годзе паважную працу пад назваю — «Канстанты Каліноўскі. Рэвалюцыйная польская дэмакрацыя ў студзенскім паўстаньні на Ліцьве і ў Беларусі».

Нарадзіўся Кастусь Каліноўскі 21-га студзеня 1838 году ў Мастаўлянах, Ваўкавыскага павету, Горадзенскай губэрні, з бацькі Сымона й маці Вэранікі з Рыбінскіх. Ахрышчаны быў іменамі Канстанты-Вінцэнты. Маці Кастуся Каліноўскага памерла рана й бацька ажаніўся другі раз. Ад першага сужэнства былі два сыны — старэйшы Віктар і малодшы Кастусь-Вінцэнты. Ад другога сужэнства было яшчэ чацьвёра дзяцей. Неўзабаве пасьля народзінаў Кастуся, бацькі ягоныя пераехалі ў фальварак Якашоўку, недалёка мястэчка Сьвіслач. У Якашоўцы Каліноўскія мелі 226 дзесяцін зямлі й невялікую ткацкую хвабрыку. З гэтага відаць, што бацькі Кастуся былі сярэдняю шляхтай. У Якашоўцы малы Кастусь пазнаў жыцьцё беларускае вёскі, беларускія народныя абрады, песьні, а побач з гэтым — і цяжкую долю прыгоннага беларускага сялянства. Скончыўшы пачатковую школу ў Якашоўцы, Кастусь быў адданы ў Сьвіслацкую пяцікласную прагімназію, заснаваную графам Вінцэнтым Тышкевічам, вельмі добра агледжаную ў навуковыя дапаможнікі. Прагімназія гэтая была падпарадкаваная Віленскаму Ўнівэрсытэту, аж да часоў ягонага зачыненьня расейскімі ўладамі, знаходзілася пад ягоным уплывам і дзеля гэтага тыя плыні, той ідэйны рух, якія хвалявалі ў тыя гады віленскую ўнівэрсытэцкую моладзь, панавалі й у душах юнакоў — вучняў Сьвіслацкае прагімназіі. З муроў ейных выйшла шмат перадавое інтэлігенцыі для Беларусі, Летувы, а навет Польшчы. Маючы 17 год Каліноўскі скончыў прагімназію й паехаў у Маскву, дзе вучыўся ўжо ягоны старэйшы брат Віктар, каб паступіць у маскоўскі ўнівэрсытэт. Адылі, бацька Каліноўскага ня мог утрымліваць аж двух сыноў у высокіх школах у Маскве й Віктар наважыў пакінуць унівэрсытэт, каб даць магчымасьць вучыцца малодшаму брату. Неўзабаве маладыя Каліноўскія пераехалі ў Пецярбург. Віктар уладзіўся на працу ў публічную бібліятэку, а Кастусь запісаўся на ўнівэрсытэт, на юрыдычны факультэт, а па некаторым часе атрымаў дзяржаўную стыпэндыю.

У Пецярбурскім унівэрсытэце вучылася ў тыя гады вельмі шмат моладзі зь Беларусі й Летувы. Большая частка гэтых студэнтаў належыла да дзьвёх тайных арганізацыяў. Адна зь іх, зь Якубам Гэйштарам на чале, мела сацыяльна-палітычную, незалежніцкую праграму, але правага кірунку. Іншая арганізацыя, пад правадырствам ахвіцэра генэральнага штабу расейскае арміі Жыгімонта Серакоўскага, была вельмі рэвалюцыйная й мела за мэту вызваленьне сялянаў ад прыгону й перадачу ўсёй панскай зямлі бяз выкупу сялянству, а таксама аддзяленьне ад Расеі шляхам збройнага паўстаньня Беларусі, Летувы й Польшчы. Кастусь Каліноўскі належаў да арганізацыі Серакоўскага, атрымаўшы там сваё першае рэвалюцыйнае вышкаленьне. У 1860 годзе Кастусь Каліноўскі скончыў унівэрсытэт, атрымаў навуковую ступень кандыдата навук і ў тым-жа годзе вярнуўся на Беларусь.

### РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ КАЛІНОЎСКАГА ПАСЬЛЯ ЗВАРОТУ НА БЕЛАРУСЬ

У 1860 годзе Каліноўскі апынуўся зноў у родных мясьцінах, на Горадзеншчыне, дзе ён знайшоў сваіх старых сяброў па Сьвіслацкай прагімназіі, зь якіх шмат былі аднае зь ім думкі, як Валяр'ян Врублеўскі, Фэлікс Ражанскі, Станіслаў Сонгін ды інш. З Фэліксам Ражанскім, пераапрануўшыся вандроўнымі гандлярамі, Каліноўскі абыйшоў пехатою ўсю Бела-

# Інфармацыйныя зборкі Беларуска-Амэрыканскага Акадэмічнага Таварыства ў ЗША

Беларуская студэнцкая арганізацыя — БААТ, мае адно з галоўных заданьняў — дапамагаць сябром Таварыства ў паступленьні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы ў ЗША, ды памагаць беларускай моладзі ў здабываньні вышэйшай асьветы наагул.

Дзеля гэтага, у месяцы кастрычніку сёлета, Галоўнай Управаю БААТ былі наладжаныя дзьве інфармацыйныя зборкі для ўсіх тых, што закончылі сярэднюю школу й думаюць ісьці на ўнівэрсытэт, тых што ў хуткім часе закончаць сярэднюю асьвету, і тых, што толькі нядаўна паступілі на ўнівэрсытэт.

На гэтых зборках, беларускія студэнты падалі цікавыя інфармацыі для малодшых сяброў аб магчымасьцях студыяў на ўнівэрсытэце, карысьці студыяваньня розных галінаў навукі (напрыклад мэдыцыны, інжынерыі, моваў, гісторыі). Акрамя гэтага, асабліва было падкрэсьлена пытаньне, аб магчымасьці атрыманьня працы пасьля заканчэньня студыяў, ды аб тым, якую трэба мець падрыхтоўку для здабыцьця вышэйшае асьветы.

Зборкі былі ладжаныя — у Нью Брансвіку, Н. Дж., і Нью Ёрку. Акрамя моладзі, на зборках прысутнічалі бацькі й госьці. З кароткімі рэфэратамі на абедзьвух зборках БААТ выступалі: мгр. Галіна Русак — аб філялёгіі, мастацтве, бібліятэкарстве; д-р Пётра М-і — аб эканоміцы й палітыцы; інж. Ю. Станкевіч — аб інжынерыі; сп-ня Л. Войтэнка — аб біялёгіі й мэдыцыне; сп. А. Кудасаў — аб вячэрніх курсах пры ўнівэрсытэтах; Акрамя гэтага, (толькі ў Нью Ёрку) выступалі: мгр. Я. Запруднік — аб гісторыі й журналістыцы; сп. Р. Гарошка — аб фізыцы.

У бальшыні, рэфэрэнты вельмі добра справіліся са сваім заданьнем і хаця коратка, але затое ясна й зразумела пастараліся насьвятліць больш важныя пытаньні, зьвязаныя із студыямі пэўнай галіны навукі ў вышэйшай навучальнай установе.

Больш цікавыя й карысныя месцы з выступленьняў нашых сяброў Беларуска-Амэрыканскага Акадэміцкага Таварыства, пастараюся падаць **ніжэй, лічачы**, што яны будуць карыснымі й для іншых.

Нязвычайна удалым быў рэфэрат аб інжынерыі, які прачытаў інж. Юрка Станкевіч. Разам з гэтым неабходна заначыць, што найбольшая колькасьць сяброў Беларуска-Амэрыканскага Акадэміцкага Таварыства студыюе інжынерыю, а таму нельга прамаўчаць пра гэтую так важную галіну навукі ў мадэрным жыцьці, дзе інжынер — запраўякія ён памог стварыць.

**Рэфэрэнт Ю. Станкевіч** слушна кажа, што куды ня глянем, навакол сябе бачым вынікі працы інжынера, — рэчы, якія ён памог стверыць.

Дамы, у якіх мы жывём; вопратка; якую мы носім; аўтамабілі й чыгунка, якімі карыстаемся; асьвятленьне, аграваньне, штодзённая інфармацыя па радыё ці тэлэвізіі — усё гэта поўнасьцяй або ў вялікай меры вынікі працы інжынера.

Дзейнасьць інжынераў можна падзяліць на 5 галоўных галінаў: будаўлянае інжынерства, здабываньне й выкарыстаньне мінэральных багацьцяў, мэханічнае інжынерства, элэктрычнае інжынерства, хімічнае інжынерства.

Нам звычайна здаецца, што галоўны занятак інжынера — гэта вылічваньне з лёгарытмічнай лінейкай у руцэ ды розныя рысункі. У запраўднасьці толькі каля 20% інжынераў (ЗША) займаецца гэтым вылічваньнем і плянаваньнем. Каля 30% працуе на адміністратыўных становішчах, 10% займаецца самым працэсам прадукцыі розных вырабаў прамысловасьці, 7% займаецца іх інсталяцыяй, 5% прадаваньнем, 18% дасьледваньнем, 5% кансультацыяй і 5% навучаньнем на унівэрсытэтах ды іншых тэхнічных установах.

Наагул, праца інжынера — гэта праца характару ўмысловага й вымагае добрага уяўленьня й здольнасьці да абстрактнага думаньня. Умець абыходзіцца з прыладамі неканечне патрэбнае. Інжынер павінен цікавіцца, на якім прынцыпе апарат або машына працуе, якая ейная функцыя, — і як гэтую функцыю можна выканаць лепш і таней. Інжынер павінен мець уяўленьне й творчы дух, але таксама й практычны падыход да справы.

Гэтым ён розьніцца ад навукоўца-фізыка, хіміка і г. п., якіх мэтай ёсьць **даведацца** прычыны розных фізычных зьявішчаў і **дасьледаваць** дакладней гэтыя зьявішчы, не зважаючы на тое, ці вынікі гэтых дасьледаваньняў можна практычна выкарыстаць, ці не. Інжынеры прытарноўваюць веды, здабытыя навукоўцамі для больш практычных мэтаў — уляпшэньня існуючых апаратаў, або канструкцыі новых. Інжынер і навуковец розьняцца ня так падрыхтоўкай (адукацыяй), як магчыма характарам. Чалавек з практычным падыходам будзе імкнуцца да інжынерства, навет маючы чыста тэарэтычную адукацыю ў фізыцы і пад. галінах. Шмат вынаходаў сучаснае тэхнікі вынайдзена людзьмі якраз з чыста тэарэтычнай адукацыяй.

Апрача інжынераў і навукоўцаў у сучаснай тэхналёгіі працуе шмат г. зв. **тэхнікаў.** Тэхнік звычайна мае няпоўную тэхнічную асьвету (да 2 год унівэрсытэту) і ня можа выконваць працы інжынера. Ён, аднак, зьяўляецца правай рукой інжынера пры дасьледаваньні, выпрабоўваньні і будаваньні апаратаў і тэхнічных сыстэмаў. Тэхнікам можна стацца закончыўшы няпоўны курс інжынерыі на афіцыяльна прызнаных унівэрсытэтах, або адмысловых тэхнічных інстытутах.

Адукацыя інжынера павінна пачынацца ужо ў сярэдняй школе. Калі вучань мае нахіл да фізыкі й матэматыкі, ён павінен пацікавіцца студыямі інжынерыі ў будучыні. Пад канец другога году сярэдняй школы ён повінен даведацца, якія унівэрсытэты ў ягонай аколіцы выкладаюць інжынерыю, якія галіны яе, — якія ёсьць уступныя вымаганьні гэтых унівэрсытэтаў, і колькі прыблізна каштуе навука.

У амэрыканскіх сярэдніх школах вучням дазволена менш-больш выбіраць прадметы, — залежна ад плянаў на будучыню. Каб быць належна падрыхтаваным да тэхнічных студыяў на унівэрсытэце, у сярэдняй школе трэба у першую чаргу прайсьці наступныя прадметы: усю матэматыку, якая выкладаецца ў дадзенай школе, прыродныя навукі (фізыку, хімію), ангельскую мову, рысаваньне і хаця адну замежную мову. Бальшыня ўнівэрсытэтаў вымагае гэтыя прадметы пры ўступе й часта змушае пачынаючых студэнтаў прайсьці іх на унівэрсытэце, перад тым, як пачынаць далейшую навуку.

Фізыка й хімія найбольш патрэбныя будучаму інжынеру, бо яны знаёмяць яго з законамі, якімі кіруюцца розныя прыродныя зьявішчы. Матэматыка — гэта прылада інжынера, пры помачы якой ён практычна выкарыстоўвае свае веды прыродных законаў. Паколькі інжынер працуе розумам, ён павінен таксама ўмець ясна выразіць свае думкі. Гэтаму памагае вывучэньне ангельскае й чужых моваў. Значэньне слова стаецца куды больш выразным чалавеку, калі ён яго знае ў некалькіх мовах.

Кошт студыяў інжынерыі на амэрыканскіх унівэрсытэтах — ад 400 да 2 000 дал. у год. Найтанейшая навука на ўнівэрсытэтах, якія часткава, або поўнасьцяй паддзержваюцца паасобнымі штатамі, або гарадамі (як у Нью-Ёрку).

Першыя два гады ўнівэрсытэцкіх студыяў абыймаюць агульныя, падрыхтоўчыя прадметы, як прыкл. матэматыку, фізыку, хімію, ангельскую мову, гісторыю, эканоміку, рысаваньне. Гэтыя прадметы абавязковыя для ўсіх студэнтаў інжынерыі, незалежна ад пазьнейшай спэцыялізацыі. Падчас гэтых двух год студэнт мае магчымасьць пабачыць, якія прадметы яго найбольш цікавяць і на падставе гэтага вырашыць, у якой галіне тэхналёгіі спэцыялізавацца.

Апошнія два, або тры гады праходзяцца прадметы чыста тэхнічнага характару. Наагул студыі інжынерыі цяжкія і параўнальна доўгія, — у Амэрыцы трываюць у сярэднім пяць год. Яны вымагаюць шмат часу, бо тэхнічную тэорыю трэба добра падмацаваць заняткамі ў лябараторыі й задачамі. І вось тут студэнт ацэніць добрую падрыхтоўку з сярэдняй школы — асабліва ў матэматыцы.

Скончыўшы ўнівэрсытэт, цяпер інжынеру ў ЗША знайсьці працу даволі лёгка. Шмат якія фірмы пасылаюць прадстаўнікоў на ўнівэрсытэты з мэтай набору новых абсальвэнтаў. Амаль усе унівэрсытэты маюць адмысловыя «аддзелы працы», якія памагаюць абсальвэнтам знайсьці працу. Вычарпаўшы гэтыя два способы, можна заўсёды шукаць працу па газэтных абвестках. Цяпер, калі попыт на інжынераў у ЗША вялікі, гэта дае зусім добрыя вынікі.

Паступіўшы на працу, абсальвэнт памагае больш дасьветчаным інжынерам зь лягчэйшымі заданьнямі, якія не вымагаюць шмат адказнасьці. Шмат дзе такія навічкі працуюць разам, у ваднэй групе, пад наглядам дасьветчанага кіраўніка. Некаторыя фірмы маюць адмысловыя курсы, якія знаёмяць навічка з працаю кампаніі й памагаюць яму знайсьці найбольш адпаведны занятак.

Адразу пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту, інжынер у ЗША дастае цяпер у сярэднім ад 450 да 500 дал. у месяц. Найбольш зарабляюць электрычныя й хімічныя інжынеры, а найменш будаўляныя інжынеры.

Пасьля прыблізна 20 год практыкі, плата бальшыні (75%) інжынераў пабольшваецца амаль удвая, і застаецца менш-больш на гэтым узроўні. Засталыя 25% — гэта выдатныя спэцыялістыя, якія аплачваюцца болей.

Асноўная мэта нашае інфармацыі — падаць пачынаючым або будучым студэнтам падрабязныя зьвесткі аб розных галінах студыяў і аб розных прафэсіях. Гэтыя інфармацыі памогуць ім зарыентавацца, як можна спэцыялізавацца ў дадзенай прафэсіі, і якія ёсьць магчымасьці працы ў гэтых спэцыяльнасьцях.

Пачнем ад разгляду **будаўлянага** інжынерства. Гэтая галіна абыймае наступныя спэцыяльнасьці: канструкцыя дамоў і грамадзкіх будынкаў, будова дарогаў, будова лётнішчаў і чыгунак, гідраўлічнае інжынерства (будова грэбляў, каналаў, асушаньне, завадненьне і г. д.), плянаваньне гарадоў, санітарнае інжынерства (сыстэма вадаправоду й каналізацыі). У ЗША цяпер найбольшы попыт

**(Заканчэньне на 8-ай бач.)**

# Вяршыня цынізму

**(Заканчэньне з 3-яе бач.)**

лай бяссоніцы савецкіх грамадзян, што дзень і ноч чакалі на «чорнага ворана», як гэта гарманізуецца з малюнкам падвалаў НКВД, у якіх самавольна лютавала так званая тройка, абліваючы гэтыя падвалы крывёй бязьвінных, даводзячы вязьняў да самагубства й вар'яцтва. А пра што нам расказваюць канцэнтрацыйныя лягеры, брацкія могілкі-«паркі», Катынь, Віньніца, брацкія магілы ваенна-палоненых зь фінскае вайны? Пра што нам расказваюць арышты, масавыя расстрэлы й паленьне вязьняў у першыя дні вайны 1941 году? Як ведама, гэтае самавольства партыі дасягае яшчэ большага размаху ў пасьляваенныя гады, прывёўшы навет да поўнае ліквідацыі ў 1943—44 гадох цэлых такіх народаў, як Татараў Крыму, Калмыкоў, Інгушаў, Балкарцаў, Чэчэнцаў і Карачаеўцаў. Як бачым, Савецкі Саюз можа многа чым пахвастацца у галіне «дасягненьняў», у «людзкім прагрэсе».

Праўда, трэба прызнаць, што цяпер Хрушчоў выпусьціў некаторую колькасьць недабіткаў на «волю», пусьціў сьлязіну ў сувязі з сталінсткім тэрорам ды асьветчыў, што гэтага больш не паўторыцца. Якая наіўнасьць! У той час ён прымушае гэтых недабіткаў сьветчыць, што яны быццам-бы знаходзіліся толькі на курортах ці ў экспэдыцыях (глядзі, напрыклад, творы пацярпеўшых пісьменьнікаў ці іх біяграфіі, а таксама біяграфіі загінуўшых), намагаецца даказаць савецкаму грамадзтву, што сталінскія чысткі й тэрор былі гістарычна неабходнымі й патрэбнымі, ды сам крок за крокам вяртаецца да практыкі свайго настаўніка. Не забудзем таксама, што духовы й нацыянальны тэрор, які заўсёды існаваў і йснуе ў Савецкім Саюзе, у некаторых адносінах зьяўляецца больш страшнейшым, чымся фізычныя рэпрэсіі. А што азначае дыктатура аднае партыі, праўдзівей аднаго чалавека й ягонай шайкі, а таксама гэты партыйны пастулят, што толькі адна партыя можа накіроўваць духовае й грамадзкае жыцьцё грамадзтва?

Няма патрэбы тут спыняцца над тым, што «кажны чалавек мае права выехаць з краіны й вярнуцца ў сваю краіну». Гэтая праўда ня толькі ведама савецкім навукоўцам, але ведама й у вольным сьвеце.

Вудучы «высокай маралі», што-ж тады мелі на ўвазе савецкія навукоўцы, асуджваючы палітыку Франко? Сказаць праўду, ніякае свае думкі яны ня мелі. Налажыўшы чорныя акуляры, яны проста паттакавалі актуальнаму курсу вонкавай палітыкі партыі, скіраванаму на так званае «мірнае суіснаваньне», змаганьне з «рэакцыяй». Што-ж, «высокую мараль» ня трэба купляць, калі яна так патрэбна ў дадзеным выпадку!

Як зазначалася вышэй, пратэст-адозва паседжаньня савецкіх навукоўцаў быў скіраваны таксама й Генэральнаму сакратару Задзіночаных Нацыяў. Бяручы на ўвагу, што гэтая арганізацыя часамі любіць трымацца цьвёрдае літары там, дзе гэтага ня выпадала-б рабіць, выходзячы, ведама, зь цьвярозага ўзважваньня справы, з прынцыпу запраўднае людзкое маралі, а таксама, што яна наагул адчувае слабасьць да «савецкага гуманізму», зусім ня выключана, што гэтая адозва можа быць уключана ў разглядаваныя ёю пытаньні. Ведама, гуманнасьць куды шмат важней, чымся, дапусьцім, вугорскі расстрэл, тыбэцкі тэрор... На савецкую зялезную заслону накладзена вэта, і туды ня мае ніхто права сунуць носа, але тут... у вольным сьвеце!.. Тым больш небесьпячней, што цяпер вельмі-ж сталі азірацца на запалены Хрушчовам у спрадвечнай цемры «зьніч» «свабоды».

**П. Залужны**

---

русь. Юнакі начавалі ў сялянскіх хатах, гутарылі зь беларускімі сялянамі, а дзе былі спрыяльныя абставіны й надзейныя людзі, — закладалі рэвалюцыйныя гурткі. Спыняліся яны і ў шляхоцкіх маёнтках, дзе дыскутуючы з багатаю шляхтаю, Каліноўскі пераканаўся ў ейным клясавым эгаізьме, матар'ялістычным падыходзе да справы й панічным жаху перад сялянскаю масаю й ейнай помстаю ў выпадку выбуху паўстаньня. Якраз тады, вандруючы па Беларусі з Фэліксам Ражанскім, Каліноўскі й пераканаўся, што на шляхту спадзявацца няма чаго й адно ў сялянскіх масах тлее, глыбока схаваны, запраўдны рэвалюцыйны агонь, які, разбуджаны ды ўмела пакіраваны, патрапіць разгарэцца вялікім вогнішчам. Вярнуўшыся з свайго першага падарожжа па Беларусі, Каліноўскі затрымаўся нейкі час у Горадні.

Тымчасам, 19 лютага 1861 году, быў абвешчаны царскі маніфэст аб вызваленьні сялянства з прыгону. Маніфэст быў прачытаны парасейску ў усіх цэрквах і касьцёлах. Ён суліў сялянам вызваленьне ад прыгону, затрыманьне на собскасьць прысялібнай зямлі й надзяленьне невялікімі гаспадаркамі, сплачванымі ў доўгатэрміновых ратах, коштам абшарніцкіх валаданьняў. Рэшта зямлі заставалася паводля маніфэсту 1861 году ў руках абшарнікаў. Дзеля ажыцьцяўленьня ўсяе рэформы даваўся двугадовы тэрмін.

Царскі маніфэст не задаволіў сялянства. Левыя былі цалкам супраць яго. Пры дапамозе свайго прапаганднага апарату акцыю супраць маніфэсту ў сялянскіх масах павёў і Каліноўскі, намаўляючы сялян дамагацца ўсяе абшарніцкае зямлі бяз выкупу й скасаваньня адрабленьня паншчыны не паступова, а зараз-жа. Гэтая прапаганда мела посьпех. Сяляне перасталі выходзіць працаваць на панскую зямлю і ў маёнтках стварылася катастрафічнае палажэньне. Генэрал-губэрнатару вытлумачылі, што беларускія сяляне не зразумелі, відаць, маніфэсту, прачытанага ім у расейскай мове. Тады быў дадзены загад прачытаць маніфэст удругі раз пабеларуску. Калі й гэта не дапамагло, генэрал-губэунатар наважыў зламаць сялянскі супраціў збройнаю сілаю. У беларускія вёскі былі пасланыя вайсковыя расейскія аддзелы, якія бізунамі прымушалі сялянаў ісьці ў двары адрабляць паншчыну. Але й бізуны не заўсёды маглі зламаць наважанасьць беларускага сялянства й здараліся выпадкі, што людзі канаді пад салдацкімі бізунамі, а працаваць на пана ня йшлі. Урэшце ўсё-ж, супраціў сялянства быў зламаны, але лютая ненавісьць беларускіх сялян да расейскага войска, царскае ўлады ды шляхты непамерна вырасла.

У 1862 годзе ўлетку Кастусь Каліноўскі пераехаў жыць у Вільню. У Вільні існаваў ужо рэвалюцыйны камітэт пад назваю «Камітэт Руху». Камітэт Руху быў арганізованы Людвігам Зьвяздоўскім, ахвіцэрам расейскае арміі, ад'ютантам генэрал-губэрнатара Назімава. Каліноўскі ўступіў у Камітэт і, калі Зьвяздоўскі пакінуў Вільню, пераняў у Камітэце ягоныя абавязкі старшымі. У сваіх «Успамінах» Гэйштар падае гэткі склад Камітэту Руху: «Канстанты Каліноўскі, празваны «хлопам» — старшыня, Жыгімонт Чэховіч, Эдмунд Вярыга, Кн Казёл, Антон Залескі, Балеслаў Длускі, Ахілес Банальдзі — сябры, ды прадстаўнік ад Варшаўскага Рэвалюцыйнага Камітэту Дэ-Лёрэнс. Камітэт Руху быў вельмі левы й рыхтаваў збройнае паўстаньне супраць Расеі. Буйная шляхта на Беларусі была супраць скрайна-рэвалюцыйнае праграмы Камітэту Руху й таму арганізавала свой апрычоны камітэт пад назваю Грамадзянскага (Абыватэльскага) Камітэту. Старшынём гэтага Камітэту быў Якуб Гэйштар, а ў склад уваходзілі буйныя абшарнікі. Грамадзянскі Камітэт ня меў свае собскае праграмы й трымаў цесную лучнасьць з гэткім-жа камітэтам у Варшаве.

## ПАЛАЖЭНЬНЕ Ў ПОЛЬШЧЫ ПЕРАД ПАЎСТАНЬНЕМ 1863—64 г.

Пасьля сьмерці цара Мікалая Першага ў Польшчы пачаліся нацыянальныя маніфэстацыі, якія часта разганяліся расейскім войскам із дапамогаю зброі. У гэным часе ў Варшаве заснавалася была лягальная арганізацыя, якая гуртавала буйнейшую шляхту пад старшынствам графа Андрэя Замойскага, і звалася Сельска-Гаспадарчым Таварыствам. Апрача згаданага Таварыства, у Варшаве існаваў тайны Рэвалюцыйны Камітэт, які й кіраваў прыгаданымі вышэй маніфэстацыямі. Галоўнаю мэтаю Камітэту, аднак, было падрыхтаваньне ў Польшчы збройнага паўстаньня супраць Расеі. У складзе Камітэту быў ахвіцэр царскае арміі Яраслаў Дамброўскі. Гэтаму Дамброўскаму й было даручана падрыхтаваць вайсковы плян паўстаньня. Паводля пляну Дамброўскага, паўстанцы павінны былі перш за ўсё здабыць цьвярдыні Варшавы й Модліна, дзе былі вялікія запасы зброі й харчаваньня й якія мелі стацца базамі выпаду супраць расейскага войска. Дамброўскі навязаў лучнасьць зь некалькімі, варожа настаўленымі да царызму, расейскімі ахвіцэрамі. Між імі знайшоўся правакатар, які зрадзіў тайніцу існаваньня й дзейнасьці Рэвалюцыйнага Камітэту расейскім уладам. Дамброўскі быў арыштаваны, а ўсе расейскія гарнізоны ў Польшчы былі замененыя сьвежа-прыбылымі з цэнтральнае Расеі войскамі. Аднак, дарма што плян збройнага паўстаньня быў выкрыты расейскімі ўладамі, праца засталых на волі сяброў Рэвалюцыйнага Камітэту ня спынілася.

Як на Беларусі, гэтак і ў Польшчы буйная шляхта была супраць паўстаньня. Ворагам паўстаньня быў і марк-граф Велёпольскі, вялікі арыстакрат, што меў сувязі з заходня-эўрапэйскаю дыплямацыяй і самым царам Аялксандрам II. Граф Велёпольскі прабаваў пераканаць польскую грамадзкасьць, што заходня-эўрапэйскія дзяржавы ніякай дапамогі польскім паўстанцам не дадуць, што паўстаньне скончыцца адно непатрэбным праліцьцём крыві й што, помсьцячы Палякам за паўстаньне, расейскія ўлады ў шмат разоў пагоршаць палажэньне польскага жыхарства. Зусім інакш, пераконваў граф, магло-б, аднак, скласьціся жыцьцё ў Польшчы, каб Палякі спрабавалі быць ляяльнымі ў дачыненьні да Расеі, бо ў гэтым выпадку цар Аляксандар II быў-бы сьхільны да вялікіх уступках... Маючы вялікі давер да Велёпольскага, Аляксандар II вызначыў яго ў чырвені 1862 году заступнікам царскага намесьніка ў Польшчы князя Гарчакова й Велёпольскі ачоліў цывільную адміністрацыю Польшчы. Першым загадам Велёпольскага на новым становішчы было зачыненьне Сельска-Гаспадарчага Таварыства, якое Велёпольскі падазраваў у найбольшай дапамозе польскаму рэвалюцыйнаму руху. З прычыны зачыненьня Таварыства была зарганізаваная вялікая пратэстацыйная маніфэстацыя варшаўскага жыхарства. Шматтысячны натоўп маніфэстантаў заліў пляц перад палацам намесьніка. Калі на заклік разыйсьціся маніфэстанты не паслухаліся, Велёпольскі згадаў расейскаму войску страляць у натоўп. Дзьвесьце чалавек былі забітыя, шмат сотняў — раненыя. Гэтая крывавая падзея канчальна вырашыла лёс на

# Лісты ў Рэдакцыю

Вельмі паважаны спадар Рэдактар,

Ветліва прашу зьмясьціць у вашай паважанай газэце наступнае:

У № 41 (477) «Бацькаўшчыны» быў зьмешчаны артыкул А. Груды зь Нью Ёрку «,Тыдзень паняволеных народаў', Радыё 'Свабода' і Беларусь». Аўтар спыніўся на вельмі важнай тэме: як былі асьветленыя Рэзалюцыя Амэрыканскага Кангрэсу і Праклямацыя Прэзыдэнта ЗША аб «Тыдні паняволеных народаў» у Радыё Свабода і, бязумоўна, у першую чаргу — Беларускай Рэдакцыяй гэтага радыя.

Дзеля таго, што аўтар згадвае ў сваім артыкуле, хоць і ўскосна, маё 'прозьвішча, уважаю сваім абавязкам падаць да ведама нашага грамадзтва некаторыя факты, якія сьведама ці нясьведама былі хвальшыва насьветленыя ў артыкуле сп. А. Груды.

Сп. А. Груда зусім справядліва дамагаецца адказу на пытаньне, чаму Беларуская Рэдакцыя Радыя Свабода не паінфармавала сваіх слухачоў належна й сваечасова аб такіх важных для нашага нацыянальна-вызвольнага руху дакумантах, як Рэзалюцыя Амэрыканскага Кангрэсу і Праклямацыя Прэзыдэнта Айзэнгаўэра.

У васноўным, нельга не згадзіцца з развражаньнямі сп. А. Груды. Але нажаль — толькі ў васноўным. Было-б зусім добра й на месцы, калі-б сп. Груда абмежаваўся да тых рэчаў, аб якіх ён мае ўсе падставы гаварыць — інакш кажучы, да тых рэчаў, якія ён ведае й разумее. Ягоны артыкул, аднак, у шмат якіх месцах сьветчыць аб адваротным. Вось чаму сп. Груда не абыходзіцца й без абразаў, падаючы заадно сваю вэрсію адказу на пастаўленае ім пытаньне. Прыкладам, сп. А. Груда аўтарытэтна заяўляе:

«Нам ведама, што там працуюць навет радныя БНР, якія-б маглі справу білянсаваць, каб яны прысьвяцілі больш увагі сваёй працы. Нажаль, іхнае зацікаўленьне абмяжоўваецца адбыцьцём урадавых гадзінаў ды атрыманьнем грошай. Інакш нельга зразумець, бо яны ня былі здольныя напісаць навет аднаго камэнтара з гледзішча беларускага аб «Тыдні паняволеных народаў», а перакладалі армянскі...»

Чытачы згодзяцца са мною, што дзеля таго, што прыгадваны армянскі скрыпт перакладаў (фактычна — апрацаваў і дапоўніў) я, аб чым сп. Груда не забыўся паведаміць, дык і вышэйшае «абвінавачаньне» тычыцца таксама, а мо і ў першую чаргу, мяне.

Ня будзем спрачацца й важыць, хто з нас — сп. Груда ці я — мае большую грамадзкую нагрузку. Пакінем таксама з боку ягоныя абразьлівыя заўвагі. Лепш падамо факты.

Пасьля таго, як сталіся ведамымі тэксты Рэзалюцыі Амэрыканскага Кангрэсу і Праклямацыя Прэзыдэнта ЗША, адзін із сталых працаўнікоў Беларускай Рэдакцыі Радыя Свабода выказаў у прысутнасьці прадстаўніка Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня (АКВ) думку, што гэтыя тэксты, з адпаведнымі камэнтарамі, трэба абавязкова падаць да ведама нашых слухачоў, і заявіў, што ён апрацоўвае гэтую перадачу (да ведама сп. Груды, я тады ня быў у Мюнхэне). Прадстаўнік Амэрыканскага Камітэту адказаў, што гэта дарэмная праца, бо ён мае дырэктывы **не прапушчаць** гэтых рэчаў. Такі-ж стан быў і ў іншых нерасейскіх рэдакцыях (аб расейскай тут і гаварыць не даводзіцца — у гэтым выпадку сп. Груда высcаў свае цьверджаньні з пальца, быццам гэтая рэдакцыя перадала безьліч матар'ялаў аб прыгаданых дакумантах).

Варта прыгадаць, што ў гэтым часе агульны Аддзел Навінаў запрапанаваў усім рэдакцыям свой камэнтар аб Рэзалюцыі Амэрыканскага Кангрэсу, пра які гаворыць і сп. Груда (перададзены Беларускай Рэдакцыяй 3-га жнівеня). Камэнтар гэты быў больш як стэрыльны. Прыкладам, адзін характэрны сказ: «Гэтым амэрыканскі народ пацьвярджае сваю адданасьць ідэалам свабоды для народаў, якімі кіруюць урады, проста або ўскосна кантраляваныя КПСС».

Недагаворваць — гэта таксама выкрыўляць факты. Таму пры перакладзе гэтага матар'ялу, той-жа, прыгадваны намі раней працаўнік Беларускай Рэдакцыі, пасьля слова «свабоды» паставіў «і незалежнасьці». На наступны дзень прадстаўнікі АКВ пачалі ледзь ня сьледзтва — хто адважыўся бязь іхнага зацьверджаньня рабіць такія рэчы...

Ня было сакрэту нікому, што АКВ у гэтым выпадку сам стаіць на раздарожжы. Але як-бы там ні было, пасьля першай інтэрвэнцыі Парыскага Блёку, нам далі да зразуменьня, што Праклямацыю Прэзыдэнта ЗША, з адпаведнымі камэнтарамі, перадаць можна. Мною быў адразу напісаны скрыпт, тэкст якога — прашу ўвагі сп. Груды — падаю тут цалкам:

**АМЭРЫКАНСКІ НАРОД НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА ПРА ПАНЯВОЛЕНЫЯ БАЛЬШАВІЗМАМ КРАІНЫ**

**«17-га ліпеня 1959 году, Прэзыдэнт Злучаных Штатаў Айзэнгаўэр выдаў праклямацыю, абвяшчаючы трэйці тыдзень ліпеня «Тыднем паняволеных краінаў». Праклямацыя гэтая была выдадзеная на падставе рэзалюцыі, аднагалосна прынятай абедзьвюма палатамі Кангрэсу Злучаных Штатаў. У рэзалюцыі Кангрэсу сьцьвярджаецца, што пачынаючы ад 1918 году, імпэрыялістычная камуністычная палітыка, шляхам простае і ўскоснае агрэсіі, прывяла да здушэньня нацыянальнае незалежнасьці цэлага шэрагу краінаў, у тым ліку і БЕЛАРУСІ. У рэзалюцыі далей гаворыцца, што паняволеныя народы глядзяць на Злучаныя Штаты, як на цьвярдыню людзкое свабоды, і спадзяюцца ад іх маральнай падтрымкі на шляху да вызваленьня і аднаўленьня нацыянальнай незалежнасьці, асабістае і рэлігійнае свабоды. Савецкая прапаганда ўключна з самым Хрушчовам груба нападае на рэзалюцыю амэрыканскага Кангрэсу і праклямацыю Прэзыдэнта Айзэнгаўэра, выкрыўляючы іхны зьмест. Дзеля таго мы ўважаем патрэбным падаць поўны тэкст Праклямацыі Прэзыдэнта Злучаных Штатаў:**

**«Дзеля таго, што шмат краінаў па ўсім сьвеце паняволеныя імпэрыялістычнай і агрэсыўнай палітыкай савецкага камунізму; ды**

**Дзеля таго, што народы апанаваных Саветамі краінаў пазбаўленыя свае нацыянальнае незалежнасьці й асабістае свабоды; ды**

**Дзеля таго, што грамадзяне Злучаных Штатаў злучаныя сямейнымі й ідэйнымі сувязямі з тымі, што любяць свабоду й справядлівасьць на кожным кантыненце; ды**

**Дзеля таго, што нам належыцца прадэманстраваць народам паняволеных краінаў з боку ўраду й народу Злучаных Штатаў Амэрыкі падтрымку іхных справядлівых імкненьняў да свабоды й нацыянальнае незалежнасьці; ды**

**Дзеля таго, што супольнай рэзалюцыяй, зацьверджанай 17-га ліпеня 1959 году, Кангрэс упаўнаважыў і прасіў Прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі выдаць Праклямацыю для вызначэньня трэйцяга тыдня ліпеня 1959 году «Тыднем Паняволеных краінаў» ды выдаваць падобную праклямацыю штагоду — аж пакуль для ўсіх паняволеных народаў сьвету ня будзе здабытая свабода й незалежнасьць.**

**Таму я, Д. Айзэнгаўэр, Прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі, гэтым абяшчаю тыдзень, што пачынаецца 19-га ліпеня 1959 году Тыднем Паняволеных Краінаў.**

**Я запрашаю народ Злучаных Штатаў Амэрыкі ўшанаваць гэты тыдзень належнымі ўрачыстасьцямі й дзейнасьцяй і заклікаю вывучаць цярпеньні апанаваных Саветамі народаў ды прысьвяціцца справе падтрыманьня справядлівых імкненьняў народаў гэтых паняволеных краінаў.**

**У пасьветчаньне гэтага я даю ніжэй свой подпіс і пячаць Злучаных Штатаў Амэрыкі.**

**Дадзена ў горадзе Вашынгтон 17-га ліпеня 1959 году, на 184-м годзе незалежнасьці Злучаных Штатаў Амэрыкі.**

**Д. Д. Айзэнгаўэр»**

**Рэзалюцыя амэрыканскага Кангрэсу, і зацытаваная намі Праклямацыя Прэзыдэнта Злучаных Штатаў зьяўляецца** Хартыяй Свабоды для ўсіх паняволеных **народаў. Гэтыя дакуманты зьяўляюцца таксама неаспрэчным доказам, што найвышэйшыя выбраныя прадстаўнікі амэрыканскага народу не забываюцца і пра долю Беларусі, нацыянальную незалежнасьць якое, абвешчаную 25-га сакавіка 1918 году пасьля развалу царскае імпэрыі, бальшавікі здушылі, і сілком улучылі ў сваю чырвоную імпэрыю.**

Дзень 17-га ліпеня 1959 году будзе для **ўсіх паняволеных народаў ясным сьветачам і маральнай апорай у іхным імкненьні да аднаўленьня адабранай нацыянальнай свабоды.»**

Прайшоў дзень, другі, а мой скрыпт, пададзены на зацьверджаньне, не вярочаўся — блудзіў па інстанцыях... Урэшце, я зьвярнуўся да прадстаўніка АКВ з пытаньнем, які лёс майго скрыпту. Мне было адказана, што ніякіх пэрспэктываў на зацьверджаньне майго скрыпту няма, і калі Беларуская Рэдакцыя хоча хоць нейкім чынам падаць да ведама нашых слухачоў тэкст Праклямацыі Прэзыдэнта ЗША, дык яна можа выкарыстаць напісаны ў міжчасе Армянскай Рэдакцыяй камэнтар. А час ішоў. Праблема выглядала так: або даць нешта, або зусім нічога. Я пераклаў і дапоўніў камэнтар Армянскай Рэдакцыі, і Беларуская Рэдакцыя перадала яго 22-га жнівеня.

Большага, чымся гэтага — акрамя можа часьцейшых паўтораў — ня здолела зрабіць ніводная рэдакцыя, і ў гэтым выніку цьверджаньні сп. Груды беспадстаўныя.

Я прыгадваў ужо аб інтэрвэнцыі Парыскага Блёку. Да ведама сп. Груды, Парыскі Блёк разглядаў гэты інцыдэнт. Мне ведама, што дэлегацыя Парыскага Блёку вельмі войстра зарэагавала на пазыцыю АКВ у гэтым пытаньні. Мне ведама таксама, што прадстаўнікі АКВ апраўдваліся тым, што якраз у той час былі адсутныя зьверхнікі, і таму, маўляў, гэтае пытаньне ня было належна разьвязанае... Але факт застаецца фактам, што бязь інтэрвэнцыі Парыскага Блёку мы не дамагліся-б навет таго, што маем. Не сакрат таксама, што толькі ў выніку ціску Парыскага Блёку, хоць і з такім жудасным і неапраўданым спазьненьнем, Праклямацыя Прэзыдэнта ЗША была зьмешчаная і ў воргане АКВ «Наше обшчее дело». Калі-ж сп. А. Груда бярэ актыўны ўдзел у палітычным жыцьці, дык ён мусіў-бы ведаць, што справа гэтая яшчэ ня скончаная і Парыскі Блёк далей пасьлядоўна дамагаецца ад АКВ тлумачэньняў гэтае нявытлумачальнае хібы.

Трэба зьвярнуць увагу і на супярэчнасьці, а то й недарэчнасьці ў артыкуле А. Груды. Ён, прыладам, з аднаго боку, прыгадвае, што ўсе працаўнікі Беларускай Рэдакцыі Радыя Свабода былі рэкамэндаваныя Радай БНР. Гэта праўда. Але што-ж тады мае на ўвазе сп. Груда, калі ён, уважаючы стан у Беларускай Рэдакцыі Радыя Свабода ненармальным, дамагаецца ад Рады БНР **запрапанаваць** АКВ правесьці адпаведныя зьмены ў рэдакцыі? Або — тым больш — калі ён прапануе Галоўнай Управе БАЗА зрабіць **«адпаведныя захады перад АКВ** у справе аздараўленьня Беларускай Рэдакцыі Радыя Свабода»? Ці сп. Груда ня бачыць тут сам недарэчнасьці? Калі Рада БНР рэкамэндуе працаўнікоў у Радыё Свабода (абмяжуемся гэтым выпадкам), дык ці яна мусіць **прапанаваць** АКВ, каб ён — АКВ — правёў адпаведныя зьмены? Што-ж тычыцца Галоўнай Управы БАЗА, дык яна можа зрабіць «адпаведныя захады» (гэта ейнае права) толькі перад Радай БНР, а ў ніякім выпадку перад Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня...

У канцы свайго адказу хачу толькі пацьвердзіць, што я, як і ўсе іншыя працаўнікі Беларускай Рэдакцыі Радыя Свабода, былі рэкамэндаваныя Радай БНР. Ня ведаю, ці ёсьць патрэба й гаварыць, што калі-б зь якіх-небудзь прычынаў Рада БНР палічыла маю працу ў Беларускай Рэдакцыі Радыя Свабода нямэтазгоднай, я падпарадкуюся гэтай пастанове.

**Ул. Цьвірка**

**СПАЧУВАНЬНЕ**

**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва выказвае сваё шчырае спачуваньне сябру й дзеючаму старшыні БІНіМ сп. Антону Адамовічу з прычыны раптоўнае, нечаканае сьмерці ягонае маці сьв. памяці Паўліны Івашкевіч, якая памерла 18-га кастрычніка 1959 году, на 86 годзе жыцьця.**

**Хай-жа Ёй, добрай Беларусцы й найлепшай Маці, будзе лёгкай амэрыканская зямля!**

**Управа**
**Беларускага Інстытуту**
**Навукі й Мастацтва**

✳

**Высокапаважаны Спадар Рэдактар,**

Ветліва просім зьмясьціць у Вашай паважанай газэце наступнае:

Газэта «Бацькаўшчына» з 8-га лістапада г. г., № 41 (477), зьмясьціла артыкул сп. А. Груды пад загалоўкам «'Тыдзень паняволеных народаў', Радыё 'Свабода' і Беларусь», у якім разглядаецца справа ўвагі, якая была прысьвечаная Праклямацыі прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам «Тыдня паняволеных народаў» і адпаведнай Рэзалюцыі Кангрэсу ЗША з боку беларускай прэсы, радыя й арганізацыяў, зь якімі Беларусы супрацоўнічаюць. Спадар Груда робіць у сваім артыкуле, між іншымі, такія вывады:

«што Беларусы даведаліся ў першую чаргу аб гэтым дакуманьце (Праклямацыі «Тыдня поняволеных народаў») з савецкай прэсы й радыя ў хвальшывым насьвятленьні»;

«што Беларусы ніколі не даведаліся запраўднага зьместу Рэзалюцыі Амэрыканскага Кангрэсу, бо ані Радыё «Свабода», ані савецкая прэса й радыё поўнасьцяй яе не падалі да ведама».

У сувязі з гэтым Беларуская Рэдакцыя Гішпанскага Нацыянальнага Радыя мае гонар давесьці да ведама сп. Груды, што нашыя суродзічы на Бацькаўшчыне, на выгнаньні ў іншых рэспубліках СССР, а таксама ў Сярэдняй і Заходняй Эўропе былі інфармаваныя пра абвешчаньне «Тыдня паняволеных народаў» беларускімі перадачамі Гішпанскага Нацыянальнага Радыя у наступныя дні: 18 ліпеня — поўны тэкст Рэзалюцыі Кангрэсу ЗША; 24-га ліпеня — тэкст Рэзалюцыі і камэнтар; 25-га ліпеня — камэнтар з вытрымкамі з Рэзалюцыі; 29-га ліпэня — гутарка: «Тыдзень паняволеных народаў»; 31-га ліпэня — паўтарэньне камэнтару, перададзенага 27-га ліпеня.

З глыбокай пашанай

**Беларуская Рэдакцыя**
**Гішпанскага Нацыянальнага Радыя**

---

**карысьць збройнага паўстаньня супраць Расеі. (Б. Ліманоўскі, Гісторыя паўстаньня народу польскага ў 1863—64 г.).**

## ДЗЬВЕ МАНІФЭСТАЦЫІ НА БЕЛАРУСІ Й «МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА»

**У першай палове 1862 году Кастусь Каліноўскі й Фэлікс Ражанскі пачалі выдаваць беларускую газэту пад назваю «Мужыцкая Праўда». Газэту падпісваў Каліноўскі сваёю мянушкаю «Яська, гаспадар з пад Вільні». Зьмест газэты быў вельмі рэвалюцыйны. «Мужыцкая Праўда» шырака распаўсюджвалася на ўсёй прасторы Беларусі, трапляла блізу ў кажную вёску. Ужо ў жніўні 1862 году міністар нутраных справаў Расеі зажадаў ад губэрнатара Горадзенскае губэрні, каб той высачыў і неадкладна яго паведаміў, хто й дзе выдае «Мужыцкую Праўду». Адылі губэрнатар мог адно паведаміць міністру, што ня можа пакуль што выканаць ягоны загад, прыкладаючы да рапарту два нумары «Мужыцкае Праўды».**

**Тымчасам, маніфэстацыі, якія адбываліся ў Польшчы, пачалі знайходзіць водгук і на Беларусі. 15-га верасьня 1862 году ў Вільні памёр беларуска-польскі паэта Уладыслаў Сыракомля. У паховінах паэты ўзялі ўдзел шырокія колы грамадзтва Вільні й ваколіцы, бяз розьніцы нацыянальнасьці, веравызнаньня ды клясавае прыналежнасьці. Дзеля ўтрыманьня парадку ў часе паховінаў, быў зарганізаваны аддзел моладзі, дзе ўсе ўдзельнікі былі апраненыя ў беларускія сялянскія сьвіткі (Б. Ліманоўскі, Гісторыя паўстаньня народу польскага 1863—64). Паховіны Сыракомлі былі выразнаю супрацьрасейскаю дэманстрацыяй. Незадоўга да яе, весткі аб расстрэле польскіх маніфэстантаў расейскім войскам на загад Велёпольскага, дасягнуўшы Беларусі, выклікалі тут вялізнае абурэньне. 8-га жніўня 1862 году ў Вільні адбылася вялікая маніфэстацыя пратэсту. І тут, разганяючы маніфэстантаў, расейскае войска, як і ў Варшаве, пачало страляць у натоўп, забіўшы адзінаццаць і раніўшы 100 чалавек. У выніку прыгаданых вышэй падзеяў, генэрал-губэрнатар абвесьціў быў Вільню на ваенным палажэньні.**

## ВЫБУХ ПАЎСТАНЬНЯ Ў ПОЛЬШЧЫ

**Граф Велёпольскі, каб не дапусьціць да паўстаньня, наважыў паклікаць колькі гадавікоў моладзі ў расейскае войска й выслаць яе, як рэкрутаў, у глыбіню Расеі, пазбываючыся гэткім чынам з Польшчы найбольш гарачага й выбуховага элемэнту. 21-га студзеня 1863 году ў Польшчы быў абвешчаны набор у войска. Вызначаныя гадавікі, аднак, пайшлі не на зборныя пункты, а ў лес. Рэвалюцыйны Камітэт у Варшаве ня быў да гэтага падрыхтаваны. Пасьля арышту Яраслава Дамброўскага, ён ня толькі што ня меў вайсковага пляну, а ня меў навет вайсковага рэфэрэнта. Але справа сталася й трэба было так ці гэтак ратаваць палажэньне, дзеіць. Камітэт даручыў кіраваньне паўстаньнем ахвіцэру расейскае арміі Падлеўскаму, каманданту места Варшавы ў Рэвалюцыйным Камітэце. Гэткім чынам сталася дзіўная рэч: не правадыры павялі народ у паўстаньне, а народ прымусіў пайсьці за сабою правадыроў. Падлеўскі паказаў сябе вельмі энэргічным кіраўнікам і здольным арганізатарам. Незадоўга ў лясох Мазуршчыны пачаліся першыя сутычкі польскіх паўстанцаў з расейскім войскам. Пакліканы Варшаўскім Рэвалюцыйным Камітэтам, рэвалюцыйны ўрад Польшчы пачаў выдаваць дэкрэты. Першым зь іх быў дэкрэт аб вызваленьні сялян ад прыгону й перадачы ім зямлі на собскасьць бяз выкупу. На вайсковага дыктатара ўрад быў вызначыў ген. Людвіка Мераслаўскага. Генэрал Мераслаўскі жыў у Пазнаншчыне, пад нямецкім заборам. Прыняўшы становішча вайсковага дыктатара паўстаньня, ён арганізаваў з пазнанскіх ахвотнікаў аддзел у 300 чалавек, перайшоў паўз нямецкую мяжу на Куявы й адразу-ж сутыкнуўся з моцным расейскім аддзелам. У баі гэтым ген. Мераслаўскі быў кантужаны, ягоны аддзел меў вялікія страты і ў выніку — недабіткі разам з ген. Мераслаўскім былі прымушаныя вярнуцца ў Пазнаншчыну.**

**Пасьля няўдалага выступленьня ген. Мераслаўскага, Рэвалюцыйны Камітэт паклікаў камандваць паўстаньнем капітана артылерыі Мэльхіёра Лянгевіча, даўшы яму ў вайсковай галіне дыктатарскія правы. Лянгевіч служыў у войску Гарыбальдзі ў Італіі, удзельнічаў у шматлікіх баёх пад камандаю гэтага выдатнага рэвалюцыянэра й набыў там вялікае вайсковае дазнаньне, так што сам Гарыбальдзі прарочыў яму вялікія ўдачы на чале паўстанскае арміі ў Польшчы. Лянгевіч быў вельмі папулярны ў польскім народзе й таму пад ягоную каманду пачалі зьбірацца й ахвотнікі й арганізаваныя вайсковыя адзінкі. Неўзабаве армія Лянгевіча лічыла ўжо 10.000 чалавек. З расейскай арміяй яна сутыкнулася пад мясцовасьцяй Грахавіскі 15-га сакавіка 1863 году. Пачатая раніцою, бітва трывала ўвесь дзень, аж увечары расейскае войска адступіла, хоць і ня было разьбітае. Гэта была бясспрэчная перамога Лянгевіча. Пасьля бітвы, Лянгевіч загадаў аддзелам закватараваца ў ваколічных вёсках, агледзець раненых і добра адпачыць. Аднак, паўстанцы не знайшлі ў вёсках ня толькі еміны для людзей і пашы для коней, але й кроплі вады, бо расейскае войска, якое тут перад Палякамі кватаравала, выбрала ўсё, аж да вады ў студнях. Стомленыя й галодныя паўстанцы занапалі духам. Лянгевіч склікаў да сябе назаўтрае раніцою ўсіх камандзераў і паведаміў іх аб сваім перакананьні, што, ня маючы за сабою базы папаўненьня, ня можна гуртаваць у вадным месцы гэткае вялікае колькасьці войска, а таму — ён загадвае камандзерам разыйсьціся малымі аддзеламі па шырокай прасторы, каб было лягчэй і пракарміць людзей і манэўраваць імі. «Паўстанскую вайну, — скончыў свой зварот да камандзераў Лянгевіч, — можна весьці адно спосабам партызанскім (пад'яздовым)». Пасьля гэтага Лянгевіч вылучыў аддзел у 300 чалавек і памаршыраваў зь ім у Галічыну. Тут, ледзь паўстанцы перайшлі аўстрыйскую мяжу, іх абкружыла аўстрыйскае войска, адабрала зброю й інтэрнавала, разам зь Лянгевічам. Гэткі быў канец другога польскага вайсковага дыктатара. (Б. Ліманоўскі, Гісторыя паўстаньня народу польскага 1863—64).**

**Дазнаньне зь Лянгевічам вырашыла спосаб вядзеньня паўстанскай вайны не адно ў Польшчы. Яно мела вырашальны ўплыў і на падзеі ў Беларусі.**

## ПАЎСТАНЬНЕ Ў БЕЛАРУСІ

**Вестка аб паўстаньні ў Польшчы із маланкавай хуткасьцяй дасягнула Беларусі. Ані Камітэт Руху, ані Грамадзянскі Камітэт, адылі, ня былі падрыхтаваныя да вайсковае акцыі. Камітэт Руху, заняты змаганьнем з абшарнікамі, згуртаванымі ў Грамадзянскім Камітэце, не парупіўся падрыхтавацца, хоць**

# Філія ССФ на Паўночную Амэрыку

**(КАМУНІКАТ № 2)**

Год таму ў газэце «Беларус» № 69 было пададзена да ведама, што ў ЗША існуе філія Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду пры Цэнтралі Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў, а таксама была пададзеная справаздача зь дзейнасьці.

У міжчасе дзейнасьць філіі пашырылася на ўсю Паўночную Амэрыку. Прадстаўніцтва філіі на Канаду згадзіліся весьці сп-ня мгр. Л. Рагуля, што сталася шостым сябрам філіі (іншыя сябры: а. др. А. Смаршчок — старшыня галоўнай управы ССФ, др. А. Вярбіцкі — старшыня філіі, мгр. Я. Запруднік — прадстаўнік ад БІНіМ, сп. А. Протас — прадстаўнік ад БАЗА, інж. К. Калоша — прадстаўнік ад БААТ). Сп-ня Л. Рагуля пераслала ў касу філіі 490,95 дал. звароту пазыкаў ад д-ра В. Жук-Грышкевіча, д-ра Б. Рагулі й мгр. Л. Рагулі.

Ад жнівеня 1958 г. грашовы стан касы філіі зьмяніўся наступным чынам:

1. Сп. сп. др. Л. Трусэвіч, мгр. З. Заруцкі і мгр. Я. Арцюх сплацілі апошнія раты пазыкі на агульную суму 221,50 дал., 2. Пяцёх іншых даўжнікоў, забавязаўшыся вярнуць увесь доўг, сплацілі 160 дал. 3. Чатыры даўжнікі далі згоду зьвярнуць неўзабаве 313,83 дал. 4. Сп-ру В. Мельяновічу была выдадзеная пазыка 180 дал. Гэткім чынам, на сяньняшні дзень у касе філіі ёсьць 942,20 дал.

Шмат захадаў было зроблена, каб атрымаць згоду на сплату пазыкі ад сямёх іншых асобаў. Стараньні пакуль што былі дарэмнымі, аднак хочацца спадзявацца, што людзі гэныя не захочуць выстаўляць сваіх прозьвішчаў да публічнага ведама і свой гонар паставяць вышэй за грошы, пазычаныя ад беларускага грамадзтва. Дагэтуль, ня гледзячы на ўсе намаганьні, не ўдалося знайсьці адрысоў наступных асобаў: д-ра Юркі Лыслава, Аўгена Кіслага, Юркі Пракопчыка, Вечаслава Качаноўскага. Вышэй пералічаных асобаў (або іхных знаёмых) ветліва просіцца адгукнуцца на гэты камунікат.

За мінулы час старшынём філіі былі выдадзеныя чатыры інфармацыйныя абежнікі пра дзейнасьць філіі, а таксама напісана каля 200 лістоў.

Падаецца да ведама, што кажны беларускі студэнт, які вучыцца на адным з унівэрсытэтаў ЗША ці Канады можа злажыць на рукі старшыні філіі або аднаго з прадстаўнікоў заяву на пазыку ў памерах вышыні аплаты за квартал ці сымэстар. Да заявы трэба далучыць адпіс аб посьпехах за пошні квартал. Для прызнаньня пазыкі патрэбная згода чатырох сяброў філіі (у гэтым ліку павінен быць старшыня галоўнае ўправы ССФ або старшыня філіі на Пн. Амэрыку). У выпадку прызнаньня пазыкі студэнт павінен даць пісьмовае забавязаньне аб звароце пазыкі, пасьля заканчэньня навукі.

Дзеля таго, што філія ССФ на Пн. Амэрыку мае атрымаць неўзабаве колькі заяваў на пазыкі, яшчэ раз просіцца ўсіх даўжнікоў у меру магчымасьці сплаціць сваю запазычанасьць. Таксама просіцца беларускае грамадзтва прыйсьці з дапамогай студэнцкай моладзі, перасылаючы ахвяры на ніжэй пададзены адрыс старшыні філіі або перадаючы іх праз аднаго з прадстаўнікоў філіі.

**Др. А. Вярбіцкі, старшыня філіі ССФ на Пн. Амэрыку**

**P. o. Box №301, Waterloo, Iowa.**

### НІ ПАДРУЧНІКАЎ НІ СШЫТКОЎ

У «заможнай» Беларусі, якую «ашчасьлівіў» расейскі старэйшы брат вучні, калі ім удаецца мець порткі, каб хадзіць у школу, вельмі часта ня могуць дастаць ні падручнікаў, ні сшыткоў, ні навет драўлянае лінейкі. І гэта не паклёп буржуазных нацыяналістых, але прызнаньне самога акупанта ў сваім воргане «Советская Белоруссия», у якой чорным па белым напісана (3. X. 59):

«Гісторыя зь нястачай падручнікаў і сшыткоў у месьце (Баранавічы), паўтараецца з году ў год».

# У чэсьць Аляксандры Маляўкі

Ведамаму беларускаму працаўніку ў Заходняй Нямеччыне, а ў мінуўшчыні — ахвіцэру беларускіх вайсковых адзінак сп. Аляксандру Маляўку нядаўна (30 верасьня сёлета) скончылася семдзесят год. З гэтае нагоды беларуская калёнія ў Мюнхэне 2-га кастрычніка сёлета ў чэсьць Паважанага Юбіляра і ў ягонай прысутнасьці была наладзіла адумысловы ўрачысты вечар.

Вечар адкрыў сэньёр беларускай калёніі сп. С. Кабыш, пасьля чаго ў кароткіх, але цёплых словах даў кароткую характарыстыку юбіляра др. Ст. Станкевіч. Пасьля некалькіх іншых галасоў сам юбіляр сказаў некалькі словаў аб сваім жыцьці й дзейнасьці. Пад гукі агульна адсьпяванае песьні «Сто год!» сп Маляўку быў уручаны сьціплы памяткавы падарунак.

Усё маладое жыцьцё сп. Маляўкі прайшло ў радох расейскае арміі ў якасьці ахвіцэра й камандзера роты. Служачы ў чужой нам арміі, ён заўсёды заставаўся Беларусам ды пры кажнай нагодзе маніфэставаў сваю беларускасьць. Калі-ж у часе апошняе вайны настала магчымасьць арганізаваньня беларускіх вайсковых адзінак, сп. Маляўка, ня гледзячы на свой век, адным зь першых уліўся ў іх дабравольна й служыў у якасьці капітана.



Сп. Аляксандар Маляўка

Апынуўшыся на эміграцыі й пражываючы ў розных лягерах ДП, сп. Маляўка ніколі не пакідаў беларускай грамадзкай працы, працуючы дзейна ці то як старшыня аддзелаў беларускіх вэтэранаў, ці то як працаўнік розных іншых беларускіх арганізацыяў. У сваім жыцьці й дзейнасьці сп. Маляўка выявіў перадусім дзьве важныя й цэнныя рысы. Ён паказаў сябе як глыбокі беларускі патрыёта й чалавек поўнасьцяй адданы беларускай нацыянальнай справе. З другога боку, у часы розных варожых звонку інсьпіраваных дывэрсіяў сярод беларускіх эмігранцкіх радоў, сп. Маляўка выявіў просталінейнасьць і цьвёрдую непахіснасьць, будучы заўсёды на тым баку, дзе праўда й дабро нацыянальнай справы.

Сьціпла адзначаючы гэтта 70-гадовы юбілей сп. Аляксандры Маляўкі, пажадаем шчыра яму яшчэ раз «Сто Год!»

**Ст.**

## *Тым, што жывуць, каб не памерла Бацькаўшчына*

*(ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ ВОЛЬНАГА СЬВЕТУ)*

*СЯБРЫ Й СЯБРОЎКІ!*

*Набліжаюцца саракавыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня — угодкі падзеі, якую штагоду мы ўшаноўваем, каб паланеў нязгасна агонь ахвярнасьці й змаганьня за вызваленьне роднага краю спад маскоўскае няволі.*

*З нагоды саракавога юбілею Збройнага чыну Случчакоў, Згуртаваньне Беларускае Моладзі Амэрыкі пляную выдаць паштовыя маркі да распаўсюджваньня якіх заклікае ўсю моладзь на эміграцыі. Пашыраць гэтыя маркі трэба ня толькі сярод сваіх суродзічаў, але ўжываць і самым на высыланых лістох і паштоўках. Мы павінны далей прабіваць заслону хвальшу й маны пра наш народ і данесьці да сьведамасьці Заходняга сьвету, што Беларусь змагалася, была пераможаная, але не паддалася. Вельмі важна таксама паказаць яшчэ раз вольнаму сьвету, што ідэю збройнага змаганьня ў імя аднайленьня незалежнасьці Беларусі нясе й моладзь — якая моладзь, што адбудоўвала й аддавала сваё жыцьцё за беларускую дзяржаўнасьць у 1920 годзе.*

*Распаўсюджваньне на лістох і паштоўках юбілейных марак павінна стацца ня толькі формай пашыраньня ў Заходнім сьвеце вестак пра Слуцкае Паўстаньне. Гэта мае быць адначасна й спосаб збору грошай на выданьне адмысловага альманаху, у які ўвойдуць усе матар'ялы гісторыі, літаратуры й мастацтва, што адлюстроўваюць гістарычную праўду пра Слуцкіх герояў і нашыя змагарныя традыцыі. Урэшце, распаўсюджваньне юбілейных марак на працягу цэлага году — гэта найлепшы спосаб належна зрыхтавацца да ўгодкаў гэтае памятнае падзеі.*

*СЯБРЫ Й СЯБРОЎКІ!*

*Калі моладзь у Слуцкім Паўстаньні, змагаючыся з расейскімі панявольнікамі, была гатовая паміраць, каб жыла Бацькаўшчына, дык наш найбольшы абавязак у змаганьні супраць таго-ж самага ворага — жыць, каб не памерла Бацькаўшчына.*

*Нью-Ёрк, Лістапад 1959 г.*

*Галоўнае Кіраўніцтва ЗБМА*

# Нямецкае радыё аб Беларусі

Баварскае Радыё ў Мюнхэне 7-га кастрычніка сёлета перадало пятнаццацімінутны даклад Др. Ст. Станкевіча аб Беларусі й ейнай гісторыі. Прыблізна дзьве трэйція часьці дакладу былі прысьвечаныя гістарычнай мінуўшчыне Беларусі, а рэшта — ейнай сучаснасьці.

У дакладзе было дакладна насьветлена, што Вялікае Княства Літоўскае, ядро якога складалі Беларусы, было фактычна беларускай нацыянальнай дзяржавай і ня мела нічога супольнага зь сяньняшняй Летувой, як многія на Захадзе памылкова ўважаюць. Таксама была адцемлена высокая ўзроўня беларускае культуры пары Вялікага Княства Літоўскага, галоўным довадам чаго было раньняе разьвіцьцё беларускага пісьменства, друкарская дзейнасьць Францішка Скарыны й панаваньне беларускай мовы як дзяржаўнай і літаратурнай на тэрыторыі ўсяго княства.

Адначасна ў дакладзе была выясьнена праблема нацыянальнага назову беларускага народу, які ў пару ўдзельных княстваў насіў свае плямённыя назовы, галоўна Крывічы, у пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага — Ліцьвіны, і толькі з канца XVIII стагодзьдзя дзеля русыфікатарскіх мэтаў быў яму накінуты сучасны ягоны назоў Беларусы.

Гаворачы аб сучасным палажэньні беларускага народу, дакладчык адцеміў ягонае станоўкае змаганьне супраць саветызацыі й русыфікацыі, зазначаючы, што ня гледзячы на шматлікія хвалі масавага тэрору, бальшавіком і дагэтуль не ўдалося зламаць у беларускім народзе цьвёрдае волі да вольнага й незалежнага нацыянальнага жыцьця.

Рыгор Крушына

## СЛУЧЧЫНА

Я гляджу засмучана
Ў недасяжнасьць далечы.
Засьпявала Случчына,
Маё сэрца палячы.

Хутары заможныя,
Вечары з гармонікам.
І вясельле кожнае
З караваем-сонейкам.

А ўжо колькі радасьці
У багатай восені!
Як прыемна ў сад ісьці —
Мілыя запросіны.

Бэры і антонаўкі
Нам глядзяць прынадаю.
Мёд ліецца з конаўкі...
Плод сасьпелы падае.

Падае і гіне ён
Каля вохнай яблыны.
Аж за мора сіняе
Вінны дух той зваблены.

У пару дзіцячую —
Яблыкі мядовыя!
Памятаю... бачу я, —
Гэты скарб захоўваю.

Пах яшчэ ня зьветрыўся,
Смак той вычуваецца.
Соладзь у паветры ўся
Нада мной зьліваецца...

Позірк мой засмучаны,
Суцем жалем згушчаны.
Паўстае цень Случчыны
Вобразам мінуўшчыны...

з большага, да збройнага паўстаньня. Больш таго, ані пры Камітэце Руху, ані пры Грамадзянскім Камітэце ня было навет вайсковага рэфэрату. Тымчасам, 29-га студзеня 1863 году Варшаўскі Рэвалюцыйны Камітэт выдаў, накіраваную да «братоў-ліцьвіноў», адмысловую адозву, заклікаючы іх да неадкладнага збройнага выступленьня. І Камітэт Руху пачаў імправізаваць. Да сакавіка былі арганізаваныя два вайсковыя аддзелы, адзін у 300 чалавек, пад камандаю маладога падпаручыка Калеты-Карэва ў паўночнай Віленшчыне й другі, каля тысячы чалавек, пад камандаю студэнта Людвіка Нарбута, у Лідчыне. Балеслаў Ліманоўскі апісвае ў сваіх «Успамінах» аддзел Нарбута гэтак:

«Аддзел складаўся з студэнцкае моладзі зь Вільні й сялянскае моладзі зь Лідчыны. Усе былі аднолькава апраненыя ў сялянскія сьвіткі й мелі торбы зь белага палатна, перавешаныя праз плячо. У торбах былі баёвыя прыпасы й запас еміны. У канцы сакавіка 1863 году, пасьля колькіх сутычкаў з расейскім войскам, аддзел Нарбута быў абкружаны недалёка ад вёскі Дыбічы ў Лідчыне. Аддзел уступіў у заципты бой. Нарбут быў ранены. Ня маючы змогі рухацца дзеля раны, Нарбут загадаў, каб яго паклалі на насілы, і ношаны гэтак, далей камандваў бітвой. Неўзабаве, аднак, трапіла яго другая куля, забіваючы на месцы. Пасьля сьмерці Нарбута, частка ягоных паўстанцаў патрапіла прабіцца праз абруч расейскіх жаўнераў, а рэшта была ўзятая ў палон. Калі цела Нарбута прынесьлі на насілах да расейскага камадзера, дык той, глянуўшы на застыглы твар гэроя, мімаволі ўстаў на «Зважай». Лёс аддзелу Калеты-Карэва быў гэткі самы, што й аддзелу Нарбута. Ён быў абкружаны расейскім войскам і таксама разьбіты, а сам Калета-Карэва трапіў у расейскі палон.

Параза аддзелу Нарбута й Калеты-Карэва мела вельмі прыгнятальны ўплыў на настроі сяброў Камітэту Руху. Прыдзелены да Камітэту прадстаўнік Варшаўскага Рэвалюцыйнага Камітэту Дэ-Лёрэнс зараз-жа выехаў у Варшаву й прадставіў там вайсковыя няўдачы паўстанцаў на Беларусі, як вынік няздольнасьці сяброў Камітэту Руху. Рэвалюцыйны Камітэт паслаў Дэ-Лёрэнса назад на Беларусь з загадам палучыць Камітэт Руху й абшарніцкі Грамадзянскі Камітэт у вадну арганізацыю пад старшынствам Якуба Гэйштара. Нова-створаная арганізацыя атрымала ад Варшаўскага Камітэту гатовы назоў: «Аддзел, што кіруе правінцыямі Літвы». Атрымаўшы загад, Якуб Гэйштар зьвярнуўся да Камітэту Руху з прапановай падпарадкавацца вырашэньню Варшаўскага Цэнтральнага Рэвалюцыйнага Камітэту й зьліцца ў вадну з Грамадзянскім Камітэтам арганізацыю. Адылі, варшаўскі загад страшэнна абурыў Каліноўскага, які адчуў яго, як цяжкую абразу ў дачыненьні да Вялікага Княства Літоўскага, якое, казаў ён, было ў мінулым незалежнай ад Польшчы дзяржавай, адно фэдэрацыйна зь ёю зьвязанай. Улічваючы, аднак, нязвычайна цяжкое палажэньне, у якім апынуліся лёсы паўстаньня, Каліноўскі, выслаўшы ў Варшаву ў Цэнтральны Рэвалюцыйны Камітэт, войстры пратэст, усё-ж загаду падпарадкаваўся й перадаў зброю, грошы й пячатку, якімі карыстаўся падуладны яму Камітэт Руху, Гэйштару. У часе перадачы між Гэйштарам і Каліноўскім адбылася вельмі гвалтоўная гутарка, апісаная Гэйштарам у ягоных «Успамінах». Гэйштар даваў да свайго апісаньня й характарыстыку Каліноўскага, якую я падаю ў перакладзе на беларускую мову:

«Гэта была натура гвалтоўная, але справядлівая, без найменшае няшчырасьці. Адданы душою й сэрцам народу й бацькаўшчыне, ён быў насяклы, адылі, скрайнымі тэорыямі, прыгэтым літоўскі (чытай — беларускі, Ф. К.) сэпаратысты, у гутарцы — крывяжэрны дэмагог. Ён быў непараўнаным, узорным канспіратарам, душою Камітэту, дасканалым выканальнікам загадаў, зь якімі сам пагаджаўся. Але за мала меў адукацыі й вызначаўся нястачаю шчырага палітычнага пагляду ды, што найважнейшае, зусім ня знаўся на людзях. На першай нашай сустрэчы пераконваў мяне, што ўдзел шляхты й абшарніцтва ў паўстаньні ня толькі што непатрэбны, але й шкодны. Народ сам адваюе сабе незалежнасьць і зьвернецца па сваю собскасьць да абшарнікаў. Як ласку, ён дазваляў шляхце ўлучацца ў паўстанскія шэрагі, але не ў сваіх паветах, а толькі там, дзе іх ня ведалі. Папраўдзе кажучы, Каліноўскі хацеў, каб народ добрасардэчна дараваў шляхце злачынствы мінуласьці, але лічыў, што калі-б шляхта загінула, сустрэла-б яе адно заслужанае пакараньне і край нічога-б на гэтым ня згубіў. А чалавек гэты-ж — быў бясспрэчна найвыдатнейшай пастацяй у сваім Камітэце!»

Якуб Гэйштар, які апынуўся на чале новага «Аддзелу, што кіруе правінцыямі Літвы», вызначыў Каліноўскага на камісара Горадзеншчыны. Каліноўскі ляяльна, тымчасам, падпарадкаваўся загаду й выехаў зь Вільні, каб заняць вызначаную пасаду. Камісару Горадзеншчыны Каліноўскаму быў падпарадкаваны вайсковы кіраўнік Горадзеншчыны Ануфры Духінскі. Не ад рэчы будзе сказаць тут, як былі арганізаваныя на Беларусі паўстанскія ўлады. На кажную губэрню вызначаўся камісар, які быў адказны як за вайсковы, гэтак і за палітычны бакі паўстаньня. Апрача гэтага на кажную губэрню вызначаўся вайсковы кіраўнік, адказны адно за вайсковы бок справы ды цывільныя й паліцыйныя начальнікі губэрні. Гэтаксама была падзеленая ўлада ў паветах і гмінах.

Калі Каліноўскі прыехаў у Горадзеншчыну, дык тутка былі ўжо арганізаваныя гэткія аддзелы: Ваўкавыскі пад камандай Стравінскага, Пружанскі пад камандай Влодка, Кобрынскі пад камандаю Рамуальда Траўгута, Берасьцейскі пад камандай Ваньковіча ды Слонімскі пад камандаю Юндзіла. Апрача таго, былі яшчэ аддзелы, непрыналежныя да адмысловых паветаў, як аддзел Духінскага ў складзе 500 чалавек, Ляндэра ў 300 чалавек, Стасякевіча ў 300 чалавек і Тышкі ў сто чалавек. Дзеля правядзеньня большых вайсковых апэрацыяў, аддзелы лучыліся ў адну большую адзінку. Гэткія, злучаныя пад камандаю Валерыя Врублеўскага, аддзелы разьбілі былі Расейцаў 12 чырвеня 1863 году ў Ражанскай пушчы й пад вёскай Вялікія Вуглы.

Тымчасам, расейскія ўлады пачалі рабіць спробы накіраваць паўстаньне беларускіх сялян супраць свае-ж шляхты. Генэрал-губэрнатар Севера-Западнага краю Назімаў ужо ў часе першых паўстанскіх акцыяў у Польшчы, выдаў адозву да беларускага сялянства, дзе пісалася:

«Маю поўную надзею, што сялянская кляса, адчуваючы ўсе дабрадзействы, спрычыненыя ёй нашым вялікім Манархам, які вызваліў яе ад прыгоннае залежнасьці, ня дасьць сябе зьвесьці й папхнуць да забурэньняў ды застанецца верная прысязе й сваім абавязкам. Да вас перадусім зьвяртаюся, сяляне віленскія, ковенскія, горадзенскія й менскія, прыпамінаючы вам аб дабрадзейным вызваленьні вас Найясьнейшым Панам ад прыгоннай залежнасьці.

**(Далей будзе)**

# Пашырайма беларускую кніжку

Найлепшым сяродкам нацыянальнага ўзгадаваньня й духовым лучнікам з далёкай Бацькаўшчынай ёсьць роднае друкаванае слова — газэта, часапіс, а ў найбольшай меры — беларуская кніжка мастацкае літаратуры. З твору мастацкае літаратуры старэйшыя прыпамінаюць і ажыўляюць у сваёй памяці абразы й быт роднай Беларусі й тым самым замацоўваюць зь ёй духовую сувязь. Малодшае пакаленьне, якое аб Бацькаўшчыне ўжо забылася, або й зусім яе ня помніць, з бачынаў кнігі мастацкае літаратуры ўпяршыню пазнае краіну свайго паходжаньня, навязвае духовы зь ёй кантакт, разбуджае да яе любоў і патрыятычныя пачуцьці.

Сыстэматычнае чытаньне на чужыне твораў беларускае літаратуры мае таксама й вялікае практычнае значаньне. Нашыя суродзічы, расьцярушаныя сярод этнічна чужога ім асяродзьдзя, паволі пачынаюць забывацца свае роднае мовы. А нашае маладое й падрастаючае пакаленьне, якое гэтае мовы ня вынесла з Бацькаўшчыны і якое наведвае чужыя школы, часамі мовы роднае й зусім ня ведае.

Дзеля гэтага для захаваньня й вывучэньня беларускае мовы на чужыне найлепшым спосабам ёсьць беларуская кніжка.

Усе гэтыя патрэбы дастаткова ўзяло на ўвагу мюнхэнскае беларускае Выдавецтва «Бацькаўшчына», якое, ня гледзячы на вялікія матар'яльныя цяжкасьці, пачынаючы ад 1951 году, сыстэматычна займаецца выдаваньнем і пашыраньнем кніжак найлепшых твораў беларускай мастацкай літаратуры, як клясычнай, гэтак і эміграцыйнай. Гэтую няўхільную патрэбу добра зразумелі й некаторыя прадстаўнікі Выдавецтва «Бацькаўшчына» ў іншых краінах і наагул людзі добрае волі, якія не шкадуюць ані часу, ані энэргіі ў распаўсюджваньні нашых кніжных выданьняў.

Але, нажаль, далёка ня ўсе гэта зразумелі сярод нашых суродзічаў. У кажнай краіне пасяленьня нашых суродзічаў мы знойдзем нямала людзей, навет сьведамых ды й актыўных Беларусаў, у хаце якіх знойдзем ня ўсе выдадзеныя дасюль кніжкі. А тымчасам гэта людзі, што ўжо сталіся заможнымі, для якіх купіць поўны камплект беларускіх кніжак і чытаць іх у вольны час ніякай цяжкасьці не стварае.

У сувязі з гэтым мы выступаем з наступнай ініцыятывай і праектам: **Кажная беларуская арганізацыя ў кажнай краіне й кажны актыўны беларускі працаўнік безадкладна павінны распачаць сыстэматычную кампанію пашырэньня беларускае кніжкі.**

Гэтым мы зробім вялікую нацыянальную справу, на выніку якой доўга чакаць ня прыйдзецца. **Дык кажнаму Беларусу беларуская кніжка!**

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

# *Адказы Рэдакцыі*

**Сп. М. Нікану, Мэльбурн (Аўстралія)**

1. Што датычыцца агульна-беларускага прадстаўніцтва на чужыне дзеля супрацьдзеяньня правакацыйнай і разбуральнай акцыі ўсходня-бэрлінскага камітэту «За вяртаньне на радзіму», дык такое прадстаўніцтва фактычна йснуе ў форме ўсіх дзейных беларускіх арганізацыяў. Хаця гэтыя арганізацыі фармальна не задзіночаныя ў вадно цэлае, аднак іхная дзейнасьць праводзіцца скаардынавана й няма між імі ніякіх прынцыповых разыходжаньняў.

2. Справа выдаваньня, апрача «Бацькаўшчыны», папулярнай беларускай газэты для шырокіх масаў эміграцыі ў нас заўсёды была й ёсьць актуальная. Нажаль, нельга было гэтага пляну ажыцьцявіць зь дзьвёх наступных прычынаў: нястача матар'яльных сяродкаў, адсутнасьць людзей, якія гэтай справай маглі-б заняцца. Ня мэтазгодным было-б таксама радзей выдаваць «Бацькаўшчыну», а на гэтае месца выдаваць прапанаваную Вамі папулярную газэту. Такая газэта выконвала-б толькі адзіночнае заданьне — абслугоўвала-б шырокія масы беларускае эміграцыі, тады, калі «Бацькаўшчына» паклікана выконваць заданьне падвойнае: абслугоўваць беларускую эміграцыйную інтэлігенцыю, як найбольш актыўны элемэнт у нашым грамадзкім жыцьці, а таксама рэпрэзэнтаваць беларускую эміграцыю ў вонкавым сьвеце.

3. У справе часапісу «Сяўбіт» мы з Вамі поўнасьцяй згаджаемся. Гэта быў вялікі нятакт зь ягонага боку, калі ў № 4/9 каталіцкая навука разглядалася як «адзіна праўдзівая», наводзячы гэтым на думку што іншыя рэлігійныя навукі непраўдзівыя.

# „Баль Народаў"

У сувязі зь Міжнародным Годам Уцекачоў, ува ўсім вольным сьвеце адбываюцца розныя імпрэзы й акцыі, даход зь якіх ідзе на дапамогу патрабуючым уцекачом. Адным зь першых мерапрыемстваў у Мюнхэне быў так званы «Баль Народаў», які адбыўся ў панядзелак, 23-га лістапада г. г. у вялікай залі гатэлю «Рэгіна Паляст». Зарганізаваны ён быў Сусьветнай Унівэрсытэцкай Службай — сусьветна ведамай арганізацыяй, якая дапамагае студэнтам-чужынцам бяз розьніцы расы, нацыянальнасьці ці веравызнаньня. Да ўдзелу ў падрыхтоўцы гэтага вечору былі запрошаныя і прадстаўнікі СМНССЭ — Саюзу Моладзі Народаў Савецкага Саюзу на Эміграцыі. Сярод прысутных былі Старшыся Сусьветнай Унівэрсытэцкай Службы на Нямеччыну Эдмунд Мозэр, Рэктар Мюнхэнскага Унівэрсытэту Аўген Ульмэр, міністар баварскага ўраду Вальтэр Штайн, карэспандэнты розных газэтаў, працаўнікі эміgranцкіх арганізацыяў, студэнты і гэтак далей.

**У** сваёй прывітальнай прамове міністар Штайн падкрэсьліў, што праблема ўцекачоў вельмі важная ў наш час. Ён сказаў, што ад 1912 году каля 100 мільёнаў асобаў страцілі сваю бацькаўшчыну з розных прычынаў; вялікая колькасьць уцекачоў жыве на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны. Адначасна ён заклікаў прысутных адгукнуцца на дапамаговую акцыю, што будзе праводзіцца цэлы год і адцеміў пры гэтым розьніцу паміж праводжаньнем розных акцыяў і грашовых зборак па гэты й па той бок Зялезнай Заслоны. Там, сказаў ён, у краінах камуністычнага блёку, ніхто ня пытаецца згоды народу: людзей прымушаюць працаваць звыш нормы, працаваць у сьвяты й г. д. У нас-жа ўсе акцыі праводзяцца дабраахвотна, даюць, хто колькі можа.

Старшыня Сусьветнай Унівэрсытэцкай Службы спыніўся на праблемах, зьвязаных з студэнтамі-уцекачамі; ад імя свае арганізацыі ён падзякаваў усім прысутным за іхны ўклад у надзвычай важную справу дапамогі такім студэнтам, і адцеміў, што ўвесь даход зь вечарыны будзе перададзены ў дапамаговы студэнцкі фонд.

Канцэртная частка была вельмі разнастайная й багатая. У ёй прынялі ўдзел Арабы, Афрыканцы, Вугорцы, Гішпанцы, Грэкі, Гіндусы, Туркі, якія выступілі із сваімі нацыянальнымі сьпевамі й танцамі. Усе яны шчыра хацелі пазнаёміць прысутных з мастацтвам сваіх народаў. Заслужаным посьпехам карысталася вугорская група, ня толькі дзякуючы свайму выкананьню, але й таму, што прысутныя адчувалі да іх асаблівую сымпатыю, добра памятаючы гераізм гэтага народу ў змаганьні за свабоду й незалежнасьць тры гады таму.

Ад эмігрантаў народаў Савецкага Саюзу ў мастацкай частцы ўзялі ўдзел Беларусы, Украінцы і Паўночна-Каўказцы. Беларусія песьні ў выкананьні трыё (Галіна Ганчарэнка, Ю. С. і Уладзімер Цьвірка), пад акампаньямэнт акардыёну, карысталіся вялікім посьпехам у шматнацыянальнай публікі. Да гэтага шмат спрычынілася і прыгожая нацыянальная вопратка выканаўцаў ды натуральнасьць выкананьня.

Падобныя выступы перад маладой інтэлігенцыяй розных нацыянальнасьцяў бязумоўна шмат спрычыняюцца да пашырэньня ведаў аб паняволеных народах Савецкага Саюзу і іхных імкненьнях. Можна з упэўненасьцяй сказаць, што, напрыклад, Афрыканцы ці Гіндусы чулі беларускія народныя песьні першы раз.

**Прысутны**

# Інфармацыйныя зборкі...

(Працяг зь 5-ае бач.)

на спэцыялістых у будове дарогаў, гідраўлічных інжынераў і людзей, дасьветчаных у плянаваньні гарадоў.

У другой галіне інжынерства, зьвязанай з выкарыстаньнем мінэральных багацьцяў, ёсьць у асноўным 2 групы адмыслоўцаў: адны здабываюць мінэральныя выкапні з нутра зямлі, а другія перарабляюць іх на сыравіны для фабрыкаў. Першыя — г. зв. шахтавыя інжынеры, здабываюць на падставе знаходак геалёгаў вугальле, нафту, розныя руды. Пры здабываньні мінэралаў патрэбныя ўсебаковыя веды з амаль усіх галінаў інжынерыі: будаўлянае, мэханічнае, электрычнае, а таксама з геалёгіі. Адмыслоўцы ў гэтай галіне звычайна зарадныя, энэргічныя й любяць працаваць у прыродзе. Іх асабліва патрабуюць цяпер амэрыканскія фірмы, якія здабываюць мінэральныя багацьці паза межамі ЗША. Да другое групы можна залічыць мэталюргаў, якія перарабляюць руды ў мэталі, нафтавых інжынераў, і некаторых хімічных інжынераў, аб якіх будзе мова далей.

Мэханічныя інжынеры маюць вельмі важную ролю ў сучаснай тэхніцы. Адны зь іх займаюцца вырабам усякага роду энэргіі — паравай, вадзяной, атамнай, і выкарыстаньнем гэтае энэргіі ў прамысловасьці. Другія займаюцца выкарыстаньнем выробленае энэргіі для публічнае карысьці, як прыкл. для аграваньня, ахаладжаньня, транспарту і г. д. Іншыя зноў будуюць сродкі мадэрнае транспартацыі: аўтамабілі, самалёты, караблі, чыгунку й абслугоўваюць транспартную сетку. Вялікі працэнт мэханічных інжынераў працуе пры апрацоўцы мэталяў, выробляючы зь іх паасобныя часьці, прылады ды машыны для прамысловасьці й прыватнага ўжытку. Апошняя важная спэцыяльнасьць — гэта кіраваньне прадукцыяй хвабрыкаў. Ад гэтых людзей залежыць спраўнае выкарыстаньне часу, работнікаў, сыравіны й машынаў у сучаснай прамысловасьці. У ЗША цяпер асабліва вялікі попыт на спэцыялістых у транспартацыі.

Электрычнае інжынерства — адна з наймалодшых галінаў тэхнікі й адначасна адна з найважнейшых. Дзеліцца яна ў васноўным на энэргетыку й электроніку. Інжынеры-энэргетыкі займаюцца прадукцыяй электрычнае энэргіі, разводжаньнем яе па краіне й выкарыстаньнем яе ў большых колькасьцях для патрэбаў прамысловасьці (у сталёўнях, рафінэрыях і інш.) і грамадзтва (транспарт, асьвятленьне). Электроніка выкарыстоўвае электрычную энэргію ў куды меншых колькасьцях. Гэтыя слабыя токі можна вельмі дакладна кантраляваць і пры помачы прэцызыйнае кантролі (электроннымі лямпамі, транзыстарамі й іншымі прыладамі), ужыць іх для вельмі хуткага пераносу інфармацыі. Гэты прынцып бачым у мадэрнай камунікацыі — радыё, тэлевізіі, радары, гукавых фільмах. Прэцызыйная кантроля слабых токаў — гэта таксама прынцып дзеяньня сучасных вылічальных машынаў і электранічнае аўтаматызацыі. Пры аўтаматызацыі электрычныя сыгналы кіруюць фізычным працэсам, як прыкл. летам самалёту, або працай аўтаматычнай мэталя-апрацоўнай машыны, якая можа прадукаваць часьці, атрымоўваючы інфармацыю электрычным спосабам проста з рысункаў.

Сталае пашыраньне сеткі цывільнае камунікацыі й транспарту ў ЗША, а таксама й «халодная вайна», якая прымушае ЗША ўдасканаліць гэтыя сыстэмы выклікалі цяпер вялікі попыт на спэцыялістых у электроніцы. Трэба аднак прызнаць, што пры адсутнасьці «халоднаваенных» высілкаў гэты попыт быўбы значна меншы. Запатрабаваньне на энэргетыкаў, затое, хаця меншае цяпер, заўсёды ёсьць і будзе ды напэўна пабольшыцца пры далейшым разьвіцьці эканомікі ЗША.

Хімічнае інжынерства — наймалодшая тэхнічная прафэсія. Сябры яе займаюцца фабрычнай прадукцыяй тых рэчываў і матар'ялаў, што былі адкрытыя хімікамі ў лябараторыі. А матар'ялаў гэтых мноства: хварбы, папера, шкло, плястыка, бэнзына, лякарствы, касмэтыкі, штучныя тканіны, алеі й розныя іншыя прадметы штодзённае патрэбы. Хімічная прамысловасьць толькі пачынае запраўды разьвівацца ў ЗША і попыт на хімічных інжынераў усё большае.

Калі-б наступіла зьмена палітычных абставінаў на Беларусі й беларускі народ стаў гаспадаром на сваёй зямлі, напэўна шмат маладых беларускіх інжынераў вярнулася-б на Бацькаўшчыну, каб памагчы пры адбудове й далейшым разьвіцьці беларускае эканомікі. Іхная праца, здольнасьці й дасьветчаньне акажуцца вельмі патрэбнымі, бо вызваленая Беларусь напэўна будзе адчуваць вялікі недахоп тэхнічных працаўнікоў.

Сяньня прамысловасьць Беларусі далёка не здавальняе патрэбаў краю — існуючыя заводы часта прыносяць больш карысьці рэшце Савецкага Саюзу, чымся Беларусі, і наадварот, тая прамысловасьць, якая-б магла працаваць на мясцовых сыравінах і падняць дабрабыт краіны, цяпер звычайна занядбаная. Беручы на ўвагу эканамічныя багацьці й цяперашнія абставіны, можна сказаць, што для поўнага разьвіцьця здаровай гаспадаркі й прамысловасьці Беларусі будуць найбольш патрэбныя гэтакія тэхнічныя працаўнікі: — будаўнікі дарогаў, гідраўлічная інжынеры для асушваньня балотаў і выкарыстаньня гідраэлектрычных рэсурсаў Беларусі, геалёгі й шахтавыя інжынеры для дасьледаваньня й здабываньня мінэральных багацьцяў, мэханічныя інжынеры для разьвіцьця сеткі транспарту, інжынеры-энэргетыкі для прадукцыі дастатковай колькасьці электрычнай энэргіі, і электронікі для наладжаньня комунікацыйнай сеткі ды аўтаматызацыі ў новай беларускай прамысловасьці. Навет частковая аўтаматызацыя паможа пераадолець нястачу кваліфікаванае рабочае сілы, якая заўважыцца пры пабудове новых заводаў.

Беларускі лес, торф, гліны, пяскі, вапна, солі й г. п. даюць магчымасьць разбудаваць буйную хімічную прамысловасьць, якая затрудніць вялікую колькасьць хімічных інжынераў.

Пададзеныя тут пэрспэктывы дзейнасьці інжынераў і тэхнікаў у вызваленай Беларусі таксама варта мець на ўвеце пры выбары інжынерных студыяў і фаху.

(Працяг будзе)

**А. Кароль**

---

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ**
**РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

**з глыбокім жалем паведамляюць аб неспадзяванай сьмерці сябры Рады БНР, б. старшыні Амэрыканскага Сэктару Рады БНР і Міністра Асьветы, сьв. пам.**

## ДР. АЛЯКСАНДРЫ ОРСЫ

**які памёр у Нью Ёрку 2-га лістапада 1959 году, пражыўшы 63 гады, і выказваюць шчырыя спачуваньні асірацелай сям'і Нябожчыка.**

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ**
**РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

---

### НЬЮ-ЁРК — МЕСТАМ МІЖНАРОДНАЕ ВЫСТАЎКІ

29 кастрычніка Прэзыдэнт Айзэнгаўэр зацьвердзіў места Нью-Ёрк местам Міжнароднае выстаўкі, што адбудзецца ў 1964 г. Нью-Ёрк быў выбраны таму, што ён — «сымбаль свабоды для міліёнаў«. У Нью-Ёрку налічваецца 135 тысяч гатэлявых пакояў і каля 18 тысячаў рэстаранаў. Тут таксама ёсьць усе магчымасьці знайсьці 500 міліёнаў даляраў, што будуць патрэбныя на фінансаваньне выстаўкі.

У сувязі зь Міжнароднай выстаўкай, што будзе вялікай міжнароднай падзеяй і прыцягне міліёны наведвальнікаў у Нью-Ёрк, нашыя грамадзкія й палітычныя арганізацыі ў Амэрыцы павінны падумаць пра выданьне належнае колькасьці інфармацыйнае літаратуры пра Беларусь. Як выявілася нядаўна на 36-ай Міжнароднай жаноцкай выстаўцы, дзе нашыя жанчыны бралі чынны ўдзел, у нас вельмі мала сьціслае англамоўнае літаратуры пра Беларусь, а пытаньнем гэтым цікавілася вельмі шмат наведвальнікаў. Гэткая літаратура патрэбная і ў іншых мовах, асабліва ў гішпанскай ды францускай.

### «НЬЮ-ЁРК ТАЙМС» ПРА ПЕРАСЬЛЕД ЖЫДОЎ НА БЕЛАРУСІ

1-га лістапада «Нью-Ёрк Таймс» зьмясьціў артыкул пра перасьледы Жыдоў у Савецкім Саюзе. Сярод пералічаных местаў, дзе крыўдзяць Жыдоў, ёсьць і беларускія: Берасьце, Смаленск і Менск. Газэта піша пра лістоўкі, што распаўсюджвае арганізацыя «Бей жидов — спасай Россию». Як выглядае, акцыя гэтая мае закуліснае падтрыманьне савецкіх афіцыйных чыньнікаў, прычым разам з антысэмітызмам праводзіцца і русыфікацыя.

### БЕЛАРУСЬ ПЕРАД ГАЛАДОЎКАЙ

У заходні сьвет штораз больш даходзіць вестак, што сёлета на Беларусі была вялікая засуха. У некаторых мясцовасьцях, бадай цэлае лета ня было дажджу. Ураджаі выпалі надта благія. Асабліва слаба ўрадзіла бульба, асноўны складнік у харчаваньні жыхарства. Ужо цяпер над краем павісла загроза галадоўкі, што пабольшваецца вялікімі падаткамі, вымаганымі ад народу зьдзірлівай дзяржавай.

### МЕНСК БЕЗ АЦЯПЛЕНЬНЯ

У сувязі з раньнімі маразамі на Беларусі некаторыя дзялянкі абслугоўваньня жыхарства безнадзейна запушчаныя. Газэта «Советская Белоруссия» (3. X. 59) паведамляе, што частка беларускае сталіцы будзе без ацяпленьня, бо «да падачы цяпла не готовыя новыя цеплафікацыйныя магістралі». Справа ўперлася ў тое, што ў Менску хочуць будаваць **цагляныя** каналы, але гэта, бач, «сувэрэннай» Беларускай ССР «запрещено Госстроем СССР». Адсюль валакіта, спрэчкі й неабагрэтыя памешканьні.

---

У нядзелю 8-га лістапада 1959 г., прыняўшы апошнія Сьвятыя Тайны, памёр у Парыжы

**сьв. памяці ЯЗЭП РАДУХА**

Нябожчык паходзіў з Гарадзеншчыны, пражыў 79 гадоў. Усё сваё жыцьцё быў шчырым Беларусам і дастойным вернікам.

Паховіны адбыліся 12-га лістапада 1959 г. на могілках Ц'е.

---




НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz**, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan**, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity**, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk**, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich**, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec**, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula**, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France**, 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan**, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**